ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 29 (2491)
ПЯТНІЦА
17
красавіка 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Мал. В. ШАРАНГОВІЧА.

Жыццё Леніна — подзвіг. Гэта — жыццё, якое прайшло ў творчай рабоце думкі і нястомным рэвалюцыйным дзеянні, у ідэйных і палітычных бітвах. Ленін увасобіў у сабе самыя выдатныя рысы пралетарскага рэвалюцыянера: магутны розум, усёпераадольваючую волю, свяшчэнную нянавісць да рабства і прыгнечання, рэвалюцыйную страсць, паслядоўны інтэрнацыяналізм, бязмежную веру ў творчыя сілы мас, велізарны арганізатарскі геній. Жыццё і дзейнасць Леніна зліліся з барацьбой рабочага класа і Камуністычнай партыі.

Дзейнасць Леніна, яго вучэнне зрабілі велізарны ўплыў на расійскі і міжнародны вызваленчы рух, надаўшы яму ідэйную рэвалюцыйную накіраванасць і арганізаванасць.

*З Тэзісаў ЦК КПСС да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна.*

## ЖЫВЫЯ РЫСЫ

Вобраз Ільіча... Ён хвалюе не толькі прафесійных мастакоў. Свой уклад у Ленініяну робяць і самадзейныя мастакі. Аўтары гэтых работ...



...А. Жываеў (Маладзечна).



...Н. Круглікаў (Мазыр).



...П. Бусловіч (Ашмяны).

Мікалай КРУКОЎСКІ

# ПАДМУРАК НАШАЙ ЭСТЭТЫКІ



**Савецкая літаратура і мастацтва паспяхова развіваюцца. Ленінскімі ідэямі, ленінскімі прынцыпамі жывіцца гэтая магутная плынь.**

**Пра неацэннае значэнне ленінскай спадчыны для рашэння надзённых праблем эстэтыкі вядзе гаворку Мікалай Крукоўскі — аўтар кнігі «Логіка прыгажосці».**

ЗНАЧЭННЕ ленінскай спадчыны для эстэтыкі — надзвычайнае. Хаця Уладзімір Ільіч і не пакінуў сістэматычнага выкладу сваіх поглядаў на галіну эстэтычных з'яў — у аснове савецкай эстэтычнай навукі менавіта ленінскія ідэі і прынцыпы. Сярод іх важнейшая для эстэтыкі — ленінская тэорыя адлюстравання. Гэтая тэорыя дае магчымасць правільна вырашаць такія важныя пытанні, як эстэтычныя адносіны чалавека да рэчаіснасці, адлюстраванне рэчаіснасці ў мастацтве, рэалізм. Ужо зыходнае палажэнне тэорыі адлюстравання — аб рэальнасці, аб'ектыўнасці і пазнавальнасці свету, дадзенага нам у адчуваннях, — адкрывае бязмежныя магчымасці перад пазнаннем жыцця сродкамі мастацтва і перад эстэтыкай, як навукай.

Відавочна, што мастацтва — адзін з відаў адлюстравання — мае перад сабой гэты рэальны свет як асноўны прадмет выяўлення. Толькі абапіраючыся на ўражанні ад рэальнай рэчаіснасці і беручы ў ёй жыватворныя сілы, мастацтва здольна існаваць як паўнацэнная пазнавальная дзейнасць, як эстэтычнае пазнанне.

Сіла ўражання ад лепшых узораў сусветнага рэалістычнага мастацтва мінулага, сіла і пераканаўчасць класічнай рускай літаратуры і мастацтва, нарэшце, нязмерныя выхаваўчыя і пераўтваральныя магчымасці мастацтва сацыялістычнага рэалізму — усё гэта абумоўлена зваротам мастакоў і пісьменнікаў да знешняга, аб'ектыўнага свету, да жывой рэчаіснасці. Там жа, дзе роля рэчаіснасці як крыніцы эстэтычных і мастакоўскіх пачуццяў адвяргаецца, мастацтва непазбежна траціць сілу свайго ўздзеяння, ператвараючыся ў выказнік абстрактнай, пустой суб'ектыўнасці. Менавіта адрывам ад рэчаіснасці, пустой суб'ектыўнасцю тлумачыцца заняпад сучаснага буржуазнага мастацтва. Агіда мастака да буржуазнага свету, які, паводле выразу Маркса, прыйшоў у атамарны стан, гніе, — узнікае заканамерна. Калі ў мастака няма іншых сацыяльных альтэрнатыў, гэтая агіда настолькі ж заканамерна прыводзіць творцу да так званага самавыяўлення, якое — не што іншае, як марнае суб'ектывісцкае самакапанне. Урэшце яно прыводзіць да поўнага самараспаду мастацтва. Хіба не пра гэта сведчаць сучасны абстракцыянізм і іншыя бедныя сэнсам «ізмы»?!.

Адмаўленне ленінскай тэорыі адлюстравання або недаацэнка яе для спасцігнення сутнасці мастацтва заводзяць эстэтыку ў ідэйны тупік. Пры гэтым вольна або міжвольна эстэтыка пераходзіць на ідэалістычныя пазіцыі, аднабаковыя і ў прынцыпе няправільныя. Што ўжо тут гаварыць пра ваяўнічых апалагетаў буржуазнага дэкадансу, для якіх ідэалізм — адзіна прымальны пункт гледжання і якія з цынічнай шчырасцю абвяшчаюць дабром гіпертрафію суб'екта ў мастацтве! У ідэйным тупіку могуць апынуцца і тэарэтыкі, якія лічаць сябе марксістамі, але не разумеюць або недаацэньваюць марксісцка-ленінскую тэорыю адлюстравання.

Так, напрыклад, вядомы французскі філосаф і эстэтык Ражэ Гарадзі, імкнучыся падкрэсліць дзейсную актыўнасць мастацтва (што само па сабе правамерна), дапускае, на жаль, аднабаковае гіпастазіраванне, «распуханне» суб'екта і ў той жа час зводзіць на нішто ролю аб'ектыўнага свету ў працэсе творчасці. Абвяшчаючы тэорыю «рэалізму без берагоў», аб'яўляючы рэалізмам любое, не толькі рэалістычнае мастацтва, ён тым самым міжволі становіцца на пазіцыі абаронцы буржуазнага дэкадансу ў мастацтве. Вось да чаго прыводзіць недаацэнка ролі аб'ектыўнай рэчаіснасці ў працэсе мастацкай творчасці, недаацэнка тэорыі адлюстравання.

Ёсць і другая крайнасць, ад якой засцерагае ленінская тэорыя адлюстравання. Гэта перабольшванне ролі аб'екта ў працэсе мастацкага адлюстравання і недаацэнка ролі суб'екта. Свядомасць дае нам суб'ектыўны вобраз аб'ектыўнага свету. Канспектуючы Гегеля, Уладзімір Ільіч адзначае, што свядомасць чалавека не толькі адлюстроўвае аб'ектыўны свет, але і творыць яго. Ільіч паясняе гэтае палажэнне, падкрэсліваючы, што свет не здавальняе чалавека і чалавек сваім дзеяннем вырашае змяніць яго. Так развіваецца ў гнасеалагічным плане славуты тэзіс Маркса пра Фербаха, дзе вялікі папярэднік Леніна задачай філасофіі ставіць не толькі вытлумачэнне знешняга свету, але і пераробку яго. Кардынальная важнасць прыгаданых палажэнняў для эстэтыкі відавочная. Калі мастацтва, як і ўвогуле эстэтычныя адносіны чалавека да свету, — адзін з відаў адлюстравання рэчаіснасці (у ленінскім разуменні — як узаемадзеянне аб'екта і суб'екта), дык і ў мастацтве суб'ект не толькі пасіўна адлюстроўвае рэчаіснасць, але і актыўна пераўтварае яе. Мастацкі вобраз, які ўзнікае ў выніку такога ўзаемадзеяння, — дыялектычна супярэчлівае адзінства аб'екта і суб'екта. У ім з усёй неабходнасцю выяўляецца актыўнасць мастака, яго суб'ектыўнае светаўспрыманне і светапогляд. Менавіта ў гэтым сэнсе павінна вырашацца пытанне, якое і сёння дыскутуецца ў нашай эстэтыцы, — пытанне аб суадносінах дзейснай і пазнавальнай функцый мастацтва, якія таксама звязаны дыялектычным супярэчлівым адзінствам.

Недаацэнка актыўнай ролі суб'екта ў працэсе мастацкага адлюстравання свету таксама прыводзіць да вельмі непажаданых вынікаў. Такая аднабаковасць у мастацтве, як правіла, вядзе да натуралістычнай зніжанасці, пазбаўляе мастацтва дзейснай сілы і здольнасці выхоўваць, а ў эстэтыцы мае вынікам спаўзанне на пазіцыі вульгарнага матэрыялізму. Эстэтыка ў гэтым выпадку не здольная вытлумачыць ніякіх разнавіднасцей мастацтва, акрамя рэалістычнага, ды і яно трактуецца ёю звужана і механістычна. Усё, што не супадае з канонам рэалізму, які абвяшчаецца такой эстэтыкай, аб'яўляецца антырэалізмам і... аўтаматычна выводзіцца ўвогуле за рамкі мастацтва. Такую аднабаковасць пры трактоўцы праблем мастацтва дапускаў, напрыклад, венгерскі філосаф і эстэтык Георг Лукач. Ён зрабіў нямала карыснага ў філасофіі, але дапускаў і цяжкія памылкі. Якраз з-за недаацэнкі актыўнай ролі мастака ў працэсе творчасці Лукач прыйшоў да заганнай тэорыі «рэалізму — антырэалізму». Тэорыя гэтая агулам закрэслівае ўсякае нерэалістычнае мастацтва, звальваючы ў адну кучу Пабла Пікасо і Сальвадора Далі, Фернана Лежэ і Джэксана Полака. Георг Лукач адмаўляў эстэтычную каштоўнасць творчасці нават такога буйнага пралетарскага пісьменніка, як Бертальд Брэхт, бо той не быў рэалістам у лукачаўскім разуменні.

Ленінская тэорыя адлюстравання, такім чынам, і па сёння — філасофскі компас пры вырашэнні самых надзённых пытанняў мастацтва.

ДРУГІ развіты і абгрунтаваны У. І. Леніным прынцып, які адыгрывае ў эстэтыцы асноватворную ролю, — прынцып партыйнасці літаратуры і мастацтва. У тэарэтычных адносінах ён цесна звязаны з асноўнымі палажэннямі тэорыі адлюстравання аб актыўнасці і дзейснасці суб'екта. У. І. Ленін вызначаў партыйнасць як свядомае імкненне мастака выказаць свае класавыя пазіцыі і погляды ў адносінах да таго, што ён адлюстроўвае. Мастак не можа быць нейтральным ва ўзаемадачыненнях з рэчаіснасцю ўжо таму, што ён жыве ў грамадстве і не можа быць незалежным ад грамадства. Яшчэ Маркс указваў: чалавек — сукупнасць грамадскіх адносін. І таму дзіўна было б гаварыць пра нейкую надкласавую свабоду мастака. Нават калі некаторыя пісьменнікі або жывапісцы заяўляюць пра сваю прынцыповую беспартыйнасць, яны тым не менш несвядома выказваюць погляды той грамадскай групоўкі, да якой належаць або з якой цесна звязаны, і таму не могуць не быць зброяй пэўнай класавай палітыкі. Завастраючы, можна, бадай, сказаць: дэкляраванне беспартыйнасці — таксама форма праяўлення пэўнай партыйнасці.

Нямала відных прадстаўнікоў сучаснага буржуазнага мастацтва асноўным прынцыпам сваёй творчасці абвяшчаюць ваяўнічую беспартыйнасць і так званую свабоду творчасці. Яны фанабэрацца незалежнасцю ад ідэйнасці, маралі і ўвогуле ад якога б там ні было грамадскага зместу. Падобная пазіцыя сапраўды не здавальняла б буржуазію часоў, напрыклад, вялікай французскай буржуазнай рэвалюцыі, калі яна была яшчэ ў пэўнай ступені прагрэсіўнай і калі ёй яшчэ патрэбны былі высокія маральныя ідэалы і ідэйнае, змястоўнае мастацтва (такім было, у прыватнасці, мастацтва Давіда). Але сучаснае буржуазнае грамадства, якое канчаткова выракласся колішніх сваіх высокіх грамадскіх ідэалаў, высунутых у свой час ім самім лозунгаў свабоды, роўнасці і братэрства, грамадства, якое прыйшло ў стан атамарнага распаду, страшэнна баіцца ўжо якой бы там ні было ідэйнасці і змястоўнасці мастацтва, ведаючы, што змястоўнасць і ідэйнасць ва ўмовах сучаснай эпохі з усёй неабходнасцю набываюць пралетарскі, камуністычны характар. І таму сучасную буржуазію цалкам здавальняе ў мастацтве дэкаданс, культываванне самага заўзятага суб'ектывізму і індывідуалізму, адыход ад вострых пытанняў грамадскага жыцця. Бо ўсё гэта адцягвае ўвагу спажыўца мастацтва ад супярэчнасцей буржуазнай рэчаіснасці. Так уяўная незалежнасць і беспартыйнасць сучаснага мастака-дэкадэнта абарочваецца самай сапраўднай буржуазнай партыйнасцю і самай прамой залежнасцю ад буржуазнага мецэната.

Змагаючыся за класавасць і партыйнасць у мастацтве, У. І. Ленін указваў і на небяспеку лявацкіх перагібаў у гэтай тонкай і спецыфічнай галіне. Ён рэзка крытыкаваў некаторых прадстаўнікоў пралеткульта за іх нігілістычныя адносіны да культуры і мастацтва мінулых эпох, за іх меркаванні, згодна з якімі новае, пралетарскае мастацтва нібыта можа быць створана штучна, у поўным адрыве ад лепшых дасягненняў мастацтва мінулага.

Не без уплыву такіх перагібаў развівалася ў першыя паслякастрычніцкія гады і мастацтва ў нашай рэспубліцы. Шырока вядомы спробы канструявання рэвалюцыйнага мастацтва на аснове знешнефармальных эксперыментаў. Дастаткова прыгадаць складанае становішча мастацкай школы ў Віцебску, калі там актыўна дзейнічалі фармалісты. Менавіта кіруючыся ленінскімі прынцыповымі ўказаннямі аб значэнні культурнай спадчыны, беларускае савецкае выяўленчае мастацтва пайшло шляхам развіцця сацыялістычнага рэалізму і на гэтым шляху дасягнула высокага ўзроўню і росквіту разнастайных талентаў. Фармалістычны кірунак развіцця быў адвергнуты ў першыя ж паслякастрычніцкія гады.

У. І. Ленін падкрэсліваў, што ў кожнай нацыянальнай культуры ёсць хаця б няразвітыя элементы дэмакратычнай і сацыялістычнай культур, бо ў кожнай нацыі ёсць працоўная маса, якую эксплуатуюць, умовы жыцця якой непазбежна нараджаюць ідэалогію дэмакратычную і сацыялістычную. Ільіч выступаў супраць якой бы там ні было шаблоннасці і фармальнага адміністравання ў справах мастацтва, указваючы, што тут безумоўна неабходна забеспячэнне прасторы для асабістай ініцыятывы, індывідуальных схільнасцей, прасторы для думкі і фантазіі, формы і зместу. Гэтыя ленінскія запаветы захоўваюць сваё кіруючае значэнне і сёння. Адступленні ад іх прыводзяць да самых цяжкіх для мастацтва вынікаў. Так, напрыклад, у Кітаі клікаю Мао праводзіцца так званая культурная рэвалюцыя — бессэнсоўна знішчаюцца культурныя і эстэтычныя каштоўнасці, створаныя таленавітым кітайскім народам на працягу тысячагоддзяў, а ў якасці новага, пралетарскага мастацтва прапагандуюцца аляпаватыя ў

сваёй напышлівасці адлюстраванні «вялікага кормчага» і безгустоўныя агіткі, зманціраваныя з яго выказванняў. Усё гэта, зразумела, ніякага дачынення да мастацтва не мае.

ЗНАЧЭННЕ ленінскай духоўнай спадчыны для эстэтыкі не абмяжоўваецца разгледжанымі пытаннямі, якія маюць непасрэднае дачыненне да мастацтва і літаратуры. Думкі і выказванні У. І. Леніна па агульных метадалагічных і філасофскіх пытаннях таксама ўяўляюць сабой скарбніцу ідэй для развіцця і ўдасканальвання эстэтычнай навукі. Гэтыя ідэі асабліва важныя цяпер, калі інтэнсіўна распрацоўваецца эстэтыка як сістэма эстэтычных катэгорый і паняццяў, якая грунтуецца на асноўных палажэннях дыялектычнай логікі. У гэтых адносінах прынцыповае значэнне маюць славутыя нататкі «Да пытання аб дыялектыцы» — квінт-эсенцыя поглядаў У. І. Леніна на дыялектыку. Гэтыя нататкі адыгрываюць асноватворчую ролю і для эстэтыкі. Так, першы ж тэзіс гэтай работы, згодна з якім сутнасць дыялектыкі — раздваенне адзінага і пазнанне супярэчлівых частак яго, мае самае непасрэднае дачыненне да эстэтыкі. У эстэтыцы, як, бадай, ні ў якой іншай навуцы, выразна выступае гэтае «раздваенне адзінага». Прыгадаем, напрыклад, адну з выходных эстэтычных катэгорый — катэгорыю эстэтычных адносін. Яны, гэтыя адносіны, якраз і валодаюць адзначанай дыялектычнай дваістасцю, дыялектычна супярэчлівым адзінствам рацыянальнага і эмацыянальнага, суб'ектыўнага і аб'ектыўнага, агульнага і адасобленага. Такую ж дыялектычную структуру маюць і іншыя, не менш важныя, эстэтычныя паняцці, як, напрыклад, мастацкі вобраз — дыялектычна супярэчлівае адзінства зместу і формы, творчы працэс, у якім у дыялектычным адзінстве выступаюць светапогляд і непасрэдны пачуццёвы вопыт мастака, і г. д.

Паказаўшы сутнасць дыялектыкі, У. І. Ленін паказвае і метад яе выкладання, што зноў-такі мае самае прамое дачыненне да выкладання эстэтыкі як сістэматычнай навукі. Катэгорыя агульнага і асобнага, з якой рэкамендуе пачынаць ход разважанняў У. І. Ленін, можа быць пакладзена ў якасці выходнай субардынуючай катэгорыі ў аснову сістэмы эстэтычных катэгорый і паняццяў. З пункту гледжання гэтай катэгорыі могуць быць разгледжаны і — што самае цяпер для эстэтыкі галоўнае — **сістэматызаваны** ўсе асноўныя эстэтычныя катэгорыі. Такія паняцці, як эстэтычныя адносіны, эстэтычны аб'ект, эстэтычны суб'ект, прыгожае, узвышанае, камічнае, мастацкі вобраз, змест і форма, унутранае і знешняе, рацыянальнае і эмацыянальнае, могуць быць узаемна звязаны ў цэласную сістэму і прыведзены ў адпаведнае адзінства з дапамогаю катэгорыі агульнага і асобнага. У. І. Ленін адзначае, што агульнае існуе толькі ў асобным. Ён звяртае асаблівую ўвагу на тое, што ўсякае асобнае ёсць (так або інакш) агульнае. Розныя станы рухомага, дыялектычна-супярэчлівага адзінства агульнага і асобнага — у аснове такіх эстэтычных катэгорый, як прыгожае, узвышанае, трагічнае, камічнае і нізкае. Як бачым, ленінскія ўказанні памагаюць будаваць эстэтыку як сістэму ўзаемазвязаных і ўзаемавызначальных паняццяў і катэгорый.

Надзвычай важныя для эстэтыкі і ідэі У. І. Леніна адносна развіцця. Паводле Леніна, умова пазнання ўсіх працэсаў свету — гэта пазнанне іх як адзінства процілегласцей. Значыць, каб зразумець і сістэму эстэтычных з'яў у іх развіцці, трэба браць гэтыя з'явы ў іх дыялектычнай «раздвоенасці» і прасочваць узаемадзеянне, барацьбу іх супярэчлівых бакоў. У. І. Ленін спецыяльна размяжоўвае дзве канцэпцыі развіцця. Адна з іх трактуе развіццё як простае павелічэнне або змяншэнне. Другая — як вынік раздваення адзінага на процілегласці, якія ўзаемавыключаюцца і знаходзяцца ў складанейшых узаемаадносінах. Найбольш жыццёвая — другая канцэпцыя развіцця. Гэтыя ленінскія ідэі — ці ж не прамое ўказанне на тое, што гісторыя развіцця розных з'яў, у тым ліку гісторыя з'яў эстэтычных (яна ў найбольш выразнай форме выступае як гісторыя мастацтва), павінна разглядацца менавіта з пункту гледжання другой, сапраўды дыялектычнай канцэпцыі. Гісторыя мастацтва не ёсць нейкае чыста колькаснае накапленне асобных, мала звязаных між сабою фактаў. Яна — вынік развіцця ўнутраных, спецыфічна эстэтычных супярэчнасцей. Гэтыя супярэчнасці ў сваю чаргу субардынуюцца развіццём асноўнай грамадскай супярэчнасці, якая рухае гісторыю чалавецтва ў цэлым. Нельга яшчэ сказаць, на жаль, што нашы эстэтыкі і гісторыкі мастацтва цалкам скарысталі ўсё багацце прыгаданых тут вельмі каштоўных ленінскіх думак. Сустракаецца яшчэ іншы раз у гэтай галіне некаторы эмпірызм.

Трактуючы развіццё як барацьбу процілегласцей, У. І. Ленін лагічна прыходзіць да вываду: гэтае развіццё як бы паўтарае пройдзеныя ўжо ступені, але паўтарае іх інакш, на больш высокай базе («адмаўленне адмаўлення»). Развіццё, так сказаць, абірае шлях па спіралі, а не па прамой лініі.

Цяжка пераацаніць навуковую значымасць і філасофскую глыбіню гэтай ленінскай думкі. «Няма сумнення, — піша вядомы савецкі гісторык С. Утчанка, — што гэтае геніяльнае ленінскае палажэнне можа быць канкрэтызавана і пацверджана на вялізным гістарычным матэрыяле... Аднак яшчэ і цяпер даводзіцца гаварыць пра гэта, як пра задачу, якая стаіць перад намі. На жаль, я не магу назваць ніводнай работы — ні філасофскай, ні гістарычнай — напісанай пад такім пунктам гледжання. А гэта ці ж не важнейшая гісторыка-філасофская праблема?» Можна з поўным правам сказаць, што гэта таксама і эстэтыка-філасофская праблема, бо адзначаная У. І. Леніным паўтаральнасць на больш высокім узроўні пройдзеных ступеняў відавочней за ўсё выступае, бадай, менавіта ў гісторыі мастацтва. Тут яна выступае як заканамерная паслядоўнасць стыляў, якія, змяняючы адзін аднаго, залежаць ад фазы ў развіцці пэўнай грамадска-эканамічнай фармацыі і ў канчатковым выніку — ад фазы ў развіцці асноўнай грамадскай супярэчнасці, якая рухае яе. У гэтым сэнсе ленінская ідэя можа разглядацца як далейшае развіццё і абагульненне вядомага палажэння Маркса, які, характарызуючы працэс развіцця грамадства, адзначаў, што розныя ідэалагічныя формы пазнання грамадскага развіцця, у тым ліку і пазнання сродкамі мастацтва, «...трэба тлумачыць з супярэчнасцей матэрыяльнага жыцця, з існуючага канфлікту між грамадскімі вытворчымі сіламі і вытворчымі адносінамі». Неабходнасць вырашэння гэтай пастаўленай Марксам і Леніным важнейшай праблемы — адна з цэнтральных задач нашай савецкай эстэтыкі.

НЕ ТРАЦЯЦЬ па сёння значэння выказванні У. І. Леніна і па асобных пытаннях эстэтыкі, літаратуры і мастацтва. Наадварот, чым далей яны адсоўваюцца ад нас у часе, тым відавочней становіцца іх правамернасць і іх глыбіня. Такія перш за ўсё славутыя яго артыкулы пра Льва Талстога. Калі Пляханаў, напрыклад, ацэньваў творчасць гэтага вялікага рускага пісьменніка з вузка зразуметага класавага пункту гледжання як творчасць «кающегося барина» і толькі, дык У. І. Ленін бачыў у Талстым крок наперад у мастацкім развіцці ўсяго чалавецтва.

У. І. Ленін высока цаніў творчасць выдатных рускіх пісьменнікаў-рэвалюцыянераў Бялінскага, Герцэна, Чарнышэўскага, Дабралюбава і падкрэсліваў іх значэнне для рускага рэвалюцыйнага руху. У той жа час ён крытычна адзначаў нездаровыя рысы ў творах Ф. Дастаеўскага, называючы яго чалавекам хворага сумлення і разам з тым прызнаючы геніяльнасць Дастаеўскага як мастака. На прыкладзе аналізу рамана В. Віннічэнкі «Запаветы бацькоў» У. І. Ленін паказаў, што далейшае развіццё адмоўных бакоў мастацкай спадчыны Дастаеўскага вядзе да заняпаду літаратуры, да дэкадансу. Гэта становіцца асабліва відавочным, калі кінуць пагляд на стан сучаснай упадніцкай заходняй літаратуры і на тую ролю, якую адыгралі ў яе развіцці менавіта негатыўныя бакі творчасці Дастаеўскага. Увогуле У. І. Ленін рэзка адмоўна ставіўся да мадэрнісцкіх праяў сучаснай яму буржуазнай літаратуры. Ён у той жа час бліскуча адрозніваў у творчасці тых ці іншых пісьменнікаў супярэчлівую сумесь праўды жыцця і памылковых ідэй і нярэдка знаходзіў у творчасці такіх пісьменнікаў карыснае, нават калі яны стаялі на чужых яму, Ільічу, ідэйных і палітычных пазіцыях. Такой была, напрыклад, яго ацэнка творчасці пісьменніка-белаэмігранта Аверчанкі.

У ЦЭЛЫМ ідэйная спадчына Уладзіміра Ільіча Леніна і значэнне яе для развіцця савецкай навукі эстэтыкі, для развіцця савецкай літаратуры і мастацтва з ходам гісторыі не старэюць, як спрабуюць давесці тыя ці іншыя з нашых ідэйных праціўнікаў на буржуазным Захадзе, а наадварот — становяцца ўсё больш і больш каштоўнымі, актуальнымі.

Ленінская ідэйная спадчына служыць дакладным компасам, кіруючыся якім наша эстэтычная навука, нашы літаратура і мастацтва няўхільна рухаюцца наперад, прымаючы актыўны ўдзел у жыцці нашага грамадства, у яго гераічнай барацьбе за пабудову камунізма.



Сваю ленініяну стварылі віцебскія дываноўшчыкі. Гэта — дзевяць дываноў з партрэтам правадыра. Многа і плённа папрацавалі над імі мастакі А. Саленікава і І. Шурупаў, якіх вы бачыце на здымку.

Фота Г. УСЛАМАВА. (БЕЛТА).

Тарас ХАДКЕВІЧ

# З ЯГО ІМЕМ...

РАСПРАВІЛА крылы вясна. Пранізаныя шчодрым сонцам паўднёвыя вятры прагналі рэшткі зімы. Гамоніць красавік вясёлай птушынай пераклічкай, мяккім перазвонам ручаёў на палях, шумлівай паводкай на рэках. Кучаравіцца на сонечных лугавінках першая трава, набрынялі жыватворнымі сокамі дрэвы, упрыгожваецца іх голле пупышкамі, гатовымі вось-вось раскрыцца квеценню і пяшчотнай зеленню лісткоў.

Звычайныя прыкметы вясны. Але калі з яе прыходам у чалавека ладзяцца справы, калі ў яго добры, прыўзняты настрой, тады гэтыя прыкметы становяцца яшчэ больш яркімі.

Настрой жа ў нас, савецкіх людзей, у гэтую вясну асабліва светлы і ўрачысты. Як у вялікае, надзвычай дарагое свята. Сто год назад у красавіку, калі вось гэтак, як і сёння, па-вясноваму ажывала прырода, нарадзіўся на Волзе чалавек, якому наканавана было адкрыць новую эру ў жыцці чалавецтва, заснаваць першую ў гісторыі дзяржаву рабочых і сялян, паказаць працоўным шлях у будучыню светлую, шчаслівую.

Пад кіраўніцтвам створанай ім партыі была здзейснена Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая знішчыла сацыяльную няроўнасць, разняволіла магутныя творчыя сілы народных мас.

Ленін

Няма такога савецкага чалавека як старэйшага, так і малодшага пакалення, у чыю біяграфію не ўвайшло б гэтае імя, хто не памятаў бы, чым ён абавязаны генію вялікага правадыра працоўных.

Я ўпершыню пачуў імя Леніна малым хлапчуком у канцы семнаццатага ці пачатку васемнаццатага года, калі нашы вяскоўцы, у іх ліку і мой бацька, пайшлі ў панскі маёнтак, пакінуты ўжо ў страху перад рэвалюцыяй гаспадарамі. Павёў іх прыезджы з Піцера салдат, у якога была звычка паўтараць у размовах з сялянамі: «так казаў Ленін». Ён быў бальшавік, асабіста бачыў і чуў Леніна.

Памятаю, бацька прывёз з маёнтка мяшок збажыны і, што цікава было для мяне, малога, крываногае мяккае крэсла з разной спінкай, абітае выцертым малінавым аксамітам. Крэсла ён паставіў у большым пакоі каля стала пры акне. Праўда, неўзабаве у нашу мясцовасць прыйшлі немцы, і крэсла давялося схаваць недзе на гарышчы, бо панскі акамом з нямецкімі салдатамі шныпарыў па вёсках, шукаючы падзеленае сялянамі дабро з маёнтка.

Але немцы стаялі ў нас нядоўга, з імі збеглі паны, і крэсла зноў заняло сваё месца ў хаце. Бацька любіў у вольны час сядзець на ім, чытаць, напяўшы на нос акуляры ў просценькай аправе, газету «Беднота» або глядзець у задуменні на прывезены ім адчекуль і павешаны насупраць акна на абклеенай газетамі дашчанай пераборцы невялікі партрэт Леніна.

Чуццё патомнага земляроба, які ведаў цану мужыцкай працы і мужыцкіх бядот, падказвала, што гэтаму чалавеку з добрым, ледзь-ледзь прыжмураным позіркам на партрэце можна верыць.

Нас, сыноў, у бацькі было трое. Якая будучыня чакала нас, каб не Вялікі Кастрычнік? Напэўна б, старэйшы застаўся жыць на старой бацькавай сядзібе, а малодшыя пайшлі б батракамі ў панскі маёнтак ці да кулака або адправіліся б у далёкі горад гнуць спіну на фабрыканта.

Кастрычніцкая рэвалюцыя зняла перад бацькам складаную праблему — вечны неспакой працоўнага за лёс сваіх дзяцей.

...У марозны студзеньскі дзень дваццаць чацвёртага года ў вёску прыйшла вестка аб смерці Ільіча. Бацька са слязьмі на вачах атуліў дарагі партрэт чорна-чырвоным крэпам. І, здавалася, у дзень пахавання да нас у вясковую хату даляцелі жалобныя гудкі заводаў і фабрык з далёкіх гарадоў і паравозаў з чыгунак.

У вёску прыйшло новае жыццё. Завадатарамі новага сталі камсамольцы; у камсамол уступілі і мы, трое братоў. У чытальні, што мясцілася ў сялянскай хаце, стварылі бібліятэчку. Сярод кніг — брашуры Леніна «Чарговыя задачы Савецкай улады», «Аб кааперацыі» і іншыя. Мы чыталі іх, і няхай далёка не ва ўсім разбіраліся, але яны пакідалі трывалы след у нашай свядомасці.

І калі яшчэ да калектывізацыі ў нашай вёсцы арганізаваўся калгас з дванаццаці гаспадарак, ініцыятарамі яго былі камсамольцы. Ён і цяпер існуе, гэты калгас, пад той жа назвай «Новы шлях» — буйны, вядома, сёння, багаты, адзін з перадавых у раёне і вобласці.

Пазней у час вучобы ў тэхнікуме і інстытуце, ды і потым, я глыбей пазнаёміўся з многімі творамі Леніна і зразумеў, якая невычэрпная крыніца ведаў тоіцца ў іх, які неабдымны далягляд адкрываюць яны перад кожным, як, знаёмячыся з імі, вывучаючы іх, расце чалавек духоўна, маральна, ачышчаецца ад брудных плям мінулага, назапашвае энергію для барацьбы за справядлівасць і шчасце на зямлі.

Яшчэ жыве нямала людзей, якія на ўласныя вочы бачылі жывога Леніна, а некаторыя і блізка ведалі яго. Мы, маладзейшае за іх пакаленне, шчыра зайздросцім ім і ловім кожнае слова іх успамінаў. Аднак і нам цяпер ёсць чым ганарыцца. Мы — сведкі і ўдзельнікі велізарных пераўтварэнняў у краіне ў першыя дзесяцігоддзі Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі ў рыштаваннях новабудоўляў, у горадзе і ў вёсцы, што станавілася на калгасны шлях, закладваліся асновы сацыялізма.

...Упершыню ў Маскву я трапіў улетку трыццаць першага года. І перш за ўсё, як і большасць прыезджых, вырашыў схадзіць у Маўзалей, пакланіцца Ільічу. Стаў на Краснай плошчы ў даўжэзную чаргу. Прадстаўнікоў якіх народаў — і нашых, савецкіх, і зарубежных — ні было ў гэтай чарзе! Якія толькі мовы ні гучалі там! І ўсе мы з аднолькавым, бадай, трапятаннем сэрца, ва ўрачыстай цішыні, схіліўшы ў пашане галовы, праходзілі паўз шкляную труну на пастаменце, у якой, нібы жывы, вечным сном спіць Уладзімір Ільіч.

З таго часу, калі б я ні прыязджаў у Маскву, я абавязкова наведваюся ў Маўзалей і заўсёды бачу такую ж разнародную і разнамоўную чаргу на Краснай плошчы. І такое ж хваляванне агортвае мяне, як і тады, шмат гадоў таму назад, у юнацтве. Паток жадаючых пакланіцца Леніну бясконцы.

Ва ўсім светлым і радасным, што мы бачым вакол сябе, ва ўсіх зменах, што адбыліся і адбываюцца ў жыцці савецкага народа, увасоблены ленінскія ідэі. Імі кіруецца партыя Леніна, арганізуючы народ на выкананне задач камуністычнага будаўніцтва. Яны — у нашых цудагарадах, у гіганцкіх новабудоўлях, у росквіце калгаснай вёскі, у здабытках культуры, навукі. Яны — у пераўтварэнні прыроды, заваяванні космасу.

Любоў да правадыра рэвалюцыі, заснавальніка нашай дзяржавы ў народных гушчах незгасальная. Менавіта гэтай любоўю абумоўлены такі высокі працоўны і духоўны ўздым у сувязі з падрыхтоўкай да стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна. Яркае сведчанне таму — ленінскі суботнік, які з вялікім поспехам прайшоў у краіне 11 красавіка.

«Жыць і працаваць па-ленінску!» — гэты папулярны ў нашым грамадстве заклік увабірае ў сябе ленінскія нормы, ленінскую мараль, адданасць мэце, працавітасць, высакароднасць, сціпласць — рысы, найбольш характэрныя для чалавека будучага.



# ІВАН ШАМЯКІН

# Матрос з «Алета»

АПАВЯДАННЕ

ПАДНЯЛІ нас па сігналу баявой трывогі. Хоць час быў неспакойны—на Доне, на Волзе ўзнімалася контррэвалюцыя, а побач, у Фінскім заліве, нахабна плавалі немцы, паказвалі сваю сілу, — крэйсер, наш даўно ўжо не выходзіў у адкрытае мора, стаяў на Кранштацкім рэйдзе, а таму мы, матросы, кажучы па-простаму, троху разленаваліся. Не верылі ў марскі бой. Англійскія буржуі ў заліў не пасунуцца: пабаяцца нас і немцаў.

Тыя з братвы, каму не па нутру была стаянка на якары, запісваліся ў сухапутныя атрады, каб пайсці на фронт.

Права выбіраць камандзірамі сваіх жа матросаў не магло не адбіцца на флоцкай дысцыпліне. Некаторыя лічылі, што галоўнае — разбурыць усё старое, што напрыдумлялі паны афіцэры, а тады, маўляў, нам мора па калена, тады адразу запалім пажар сусветнай рэвалюцыі.

Але трывожныя ўдары карабельнага звона, ад якіх пачалі адвыкаць, падхапілі людзей у міг. Ніхто не ішоў у развалку — ляцелі так, што ад тупату ног па жалезных лесвіцах гудзеў бранявы корпус крэйсера. Гул гэты электрычным токам біў у сэрца, калі я, пераскокваючы цераз пяць усходцаў, узбіраўся ў артылерыйскую вежу.

Што здарылася? Чаму трывога? Адкуль наступае вораг?

Я камандаваў насавой вежай буйнога калібру, да рэвалюцыі на гэтай пасадзе лейтэнант быў.

Далажылі аб гатоўнасці гармат к бою. Але куды страляць, калі карабель мёртва стаіць на якары? Няўжо вораг падышоў да Кранштата? Чаму ж маўчаць машыны? Чаму не выходзім у мора? З такімі пытаннямі наступалі на мяне матросы. Але я ведаў столькі ж, колькі і яны.

Ды прагучалі яшчэ больш незразумелыя каманды: адбой баявой трывогі і адразу ж—сігнал пастраення на верхняй палубе, чаго, між іншым, таксама даўно не было, бо такое пастраенне лічылі афіцэрскай выдумкай і на мітынгі збіраліся проста так—па сігналу сэрцаў, па клічу камісараў.

Аднак у той дзень ніхто слова не прамовіў пра «аднаўленне старых парадкаў». Пастроіліся хутчэй, чым да рэвалюцыі, калі была палачная дысцыпліна, можа, нават хутчэй, чым год назад, у верасні семнаццатага, калі рускія караблі пайшлі ў Рыжскі заліў, да Маанзундскіх астравоў, насустрач нямецкаму флоту. Тады матросы не бранёй, а грудзьмі сваімі перагарадзілі кайзеру дарогу на рэвалюцыйны Петраград.

Няўжо зноў немцы? Ці, можа, паднялі паўстанне недабітыя буржуі, тут, у Петраградзе, каб падтрымаць контррэвалюцыю на Волзе?

Каманда крэйсера ў той час была няпоўная: пайшлі атрады на фронт, неслі каравульную службу ў Піцеры. Чалавек чатырыста застыла ў шарэнгах на палубе, гатовыя на бой і на смерць. Ніводнага слова. Толькі вочы, позіркі вачэй выдавалі нецярплівасць: што здарылася? Кажы хутчэй, камісар!

Камандзір крэйсера, камісар, члены судавога камітэта і чалавек у цывільным — пэўна, ён прывёз трывожную навіну! — стаялі перад строем, каля парэнчаў, такія ж засяроджаныя, але не па баявому напружаныя, а як бы прыбітыя бядой, горам.

Гаварыць пачаў камісар. Голас, заўжды спакойны, перарываўся, быццам у твар яму біў дзевяцібальны вецер і чалавек захлынаўся ад гэтага ветру.

— Таварышы матросы! Браткі!—так ніколі раней ён не звяртаўся, бо прыйшоў на крэйсер з завода.

Такі зварот яшчэ больш насцярожыў нас.

— Сусветная буржуазія, унутраная контррэвалюцыя, каледзінцы, аляксееўцы, белачэхі ды іншая контра хацелі нанесці ўдар у самае сэрца нашай рэвалюцыі, у самае сэрца працоўнага народа Савецкай Расіі. Учора яны ўзнялі сваю злачынную руку...—тут камісар зноў як бы захлынуўся.

— На Леніна? — вырвалася ў мяне.

Строй калыхнуўся, парушыў роўнасць шарэнгі. Цяпер ужо для мяне быццам здалёк, праз свіст ветру і грукат буры, даляцеў камісараў голас:

— Але. На таварыша Леніна. На Уладзіміра Ільіча... правадыра сусветнай рэвалюцыі.

— Не цягні, камісар! Скажы: жывы?—крыкнуў нехта з матросаў.

Ступіў ад парэнчаў цывільны, узняў руку, просячы ўвагі:

— Жывы таварыш Ленін! Жывы!

Як з адных грудзей, вырваўся ўздых. Паламаная шарэнга пачала выпрамляцца, быццам па камандзе «смірна!» Не было такой каманды, але яе дало сэрца кожнага.

Гэта было не звычайнае паведамленне, няхай нават самае трывожнае, як, напрыклад, нядаўнія—пра эсэраўскі мяцеж у Маскве і бунт чэхаславацкага корпуса. Гэта было такое, што не проста кранула сэрцы, а ўдарыла ў іх, як самы нечаканы і магутны—не на адзін карабель—на ўвесь свет!—сігнал баявой трывогі.

Гаварыў цывільны, пасля зноў—наш камісар чытаў афіцыйнае паведамленне ЦВК. Змова контррэвалюцыянераў шырокая: пра забойства Урыцкага мы пачулі яшчэ ўчора ўвечары. Караблі салютавалі на смерць старшыні Петраградскай ЧК жалобнымі гудкамі. У змроку жнівеньскага вечара, тут, на палубе, праводзілі мітынг. Цяпер гэтыя падзеі звязваліся ў адзін ланцуг.

Я стаяў у шарэнзе, слухаў камісара і ў думках сплятаў звенні гэтага ланцуга, прыгадваючы многія падзеі таго першага года рэвалюцыі. Перш за ўсё ўспомніўся адзін вельмі памятны мне дзень.

Роўна восем месяцаў назад я нёс службу ў каравульнай камандзе пры Смольным. І была ў мяне мара: трапіць як-небудзь вартавым на пост, які мы ў думках, у размовах паміж сабой называлі галоўным—каля кабінета Старшыні Саўнаркома Леніна. Хацелася мне ўбачыць правадыра зблізку, сустрэцца, як кажуць, тварам у твар, можа нават пагутарыць. А хто тады не марыў пагутарыць з Леніным! Расказвалі тыя, хто стаяў на гэтым пасту, што Ленін заўсёды знаёміўся з кожным новым вартавым, вітаўся і гутарыў. Я ж да таго бачыў Леніна толькі здалёк—слухаў выступленне ў Марыінскім палацы і аднойчы з акна Смольнага ўбачыў, як Ленін садзіўся ў аўтамабіль. Але трапіць на ўнутраны пост ніяк не шанцавала ні мне, ні маім сябрам. Там стаялі чырвонагвардзейцы. Нам, матросам, даручалі знешнюю ахову Смольнага, а таксама тэлефоннай станцыі, тэлеграфа. Хто-ніхто выказваў крыўду, што, маўляў, нам не вельмі давяраюць пасля анархісцкага бунту ў другім флоцкім экіпажы. Але я так не думаў. Хіба меншая адказнасць ахоўваць увесь будынак, дзе размяшчаўся савецкі ўрад? А тэлефон, тэлеграф, праз якія ўрад, Ленін звязваюцца з усёй Расіяй? Толькі непісьменны які пехацінец мог не разумець гэтага, а я меў чатыры класы прыходскай школы і тры гады службы на флоце.

Я не траціў надзеі, што калі-небудзь стану-такі на той пост і... сустрэнуся з Леніным.

Пасля абеду на Новы год я пайшоў каравульным да цэнтральнага пад'езду. Гэта быў цікавы пост, час тут праходзіў хутка, бо вартавых было два, і яны не стаялі без справы: людзей праходзіла мноства, самых розных—правяраеш пропускі, прыглядваешся да наведвальнікаў, перакідваешся словамі з імі і не заўважаеш, як ляціць час. У той дзень я стаяў з чырвонагвардзейцам пуцілаўскага завода, гэткім жа, як я, маладым і гаваркім хлопцам. Між іншым, можа таму, што па старым звычаі петраградцы адзначалі Новы год, наведвальнікаў было менш, чым звычайна. Але ў Смольным усе працавалі, усе наркаматы.

На парадны ганак выйшлі камендант будынка і начальнік усяго смольненскага караула. Начальнік сказаў нам:

— Трымайце, хлопцы, насы вышэй. Зараз будзем прымаць усю сусветную буржуазію.

Мы ведалі, што камандзір наш — чалавек вясёлы і засмяяліся з яго жарту.

— Глядзі — не верыць. Не хочуць мець ніякіх спраў з буржуазіяй,—таксама смеючыся, сказаў ён каменданту, і зноў да нас:—Пропускаў у буржуяў не будзе, мы з таварышам камендантам іх правядзем.

Тут я зразумеў, што чакаецца нешта цікавае і загадкавае. Сапраўды, хвілін праз колькі да Смольнага адзін за адным пачалі пад'язджаць чорныя аўтамабілі са сцяжкамі. Штук дваццаць падышло. Я ведаў сцягі дзяржаў—вучылі на караблі, убачыў на першай машыне амерыканскі, на другой—французскі, далей—англійскі, шведскі... і адразу сцяміў, што гэта — паслы. Але што ім спатрэбілася, калі я ведаў з газет, з палітычных дакладаў, што дзяржавы тыя не прызналі Савецкую ўладу?

З аўтамабіляў вылазілі паважныя паны ў багатых футрах. Сабраліся ў чараду, як тыя ваўкі ў піліпаўку, нешта забалбаталі па-свойму.

Усе наркомы віталіся з вартавымі. Гэтыя ж паны прайшлі, нават не глянуўшы на нас. Але затое я добра абмацаў вачамі кожнага з іх. Футры іх не падабаліся мне. Пад такімі сабалямі не толькі рэвальвер—кулямёт можна схаваць. Мой напарнік-чырвонагвардзеец спытаў, калі за панамі зачыніліся дзверы:

— Хто гэта?

— Паслы.

— Што ім трэба?

— Чорт іх ведае.

— Можа прыехалі павіншаваць таварыша Леніна з Новым годам?

Я засмяяўся: наіўны хлопец, захацеў ад буржуяў такой далікатнасці!

— Будуць яны табе віншаваць, калі прызнаваць нас не хочуць, рэвалюцыю нашу. Да таго ж па іх календары новы год мінуў ужо.

— У іх іншы каляндар? Во, праклятыя буржуі! Нават каляндар свой прыдумалі, не такі як у людзей!

На караблі нам тлумачылі розніцу паміж календаром рускім і заходнім, ды я не вельмі тады разабраўся ў гэтай мудрасці — чаму атрымаўся разрыў. Але прачытаў ужо ў савецкіх газетах, што рускае летазлічэнне адсталае — царкоўнае, не навуковае, што рыхтуецца дэкрэт аб пераходзе на новы каляндар і пачаў, як умеў, тлумачыць гэта свайму сябру-рабочаму.

Для таго ўся гэта навука была адкрыццём Амерыкі. Помню, хлопец здзівіўся:

— Ленін і пра каляндар думае?

— Думае.

— Якую ж галаву трэба мець, каб усё ведаць і пра ўсё клапаціцца.

Паны выйшлі назад не такія паважныя, нават некаторыя футры не зашпілілі, былі ўзбуджаныя, гаманілі гучна, нібы спрачаліся паміж сабой. З камендантам і начальнікам караула, якія праводзілі іх, не развіталіся.

«Культура!» — плюнуў я ўслед машынам. Спытаў у камандзіра, што гэтым буржуям трэба было?

— Чулі, што румыны акружылі нашы войскі, арыштавалі рэўком фронту, забілі камісара? У адказ на гэта Ленін загадаў арыштаваць і пасадзіць у Петрапаўлаўку румынскага пасла. Дык вось гэтыя прыязджалі прасіць Леніна, каб вызваліў румына.

— А дулю не хацелі? — абурыўся чырвонагвардзеец. — Усіх бы іх, гадаў, пасадзіць! Ведалі б, як страляць у салдат!..

Начальнік караула засмяяўся:

— Не быць табе, Пятро, дыпламатам. А я хацеў парэкамендаваць цябе паслом у каралеўства дацкае.

Пасля змены я прылёг на падлозе ў каравульным пакоі і задрамаў—намёрзся на пасту.

Разбудзіў крык дзяжурнага: «Трывога!» Што здарылася? Растлумачыў камандзір нашай флоцкай каравульнай каманды: адбылося пакушэнне на таварыша Леніна.

І вось гэтак жа, як тут, на караблі, спыталі тады матросы: «Жывы?» І гэтак жа ўздыхнулі, калі даведаліся, што кулі не кранулі правадыра.

Я адразу падумаў пра паслоў: яны! Сказаў пра гэта сябрам, тыя згадзіліся, што не дарэмна яны прыязджалі усёй бандай; папрасіць за румына мог бы прыехаць адзін. Нават пасля таго, як даведаліся, што ў машыну стралялі на вуліцы, калі Ленін вяртаўся з мітынгу, я ўсё адно быў перакананы, што такое подлае злачынства рабілася не без удзелу паслоў. Таму і прыехалі: паглядзець на Леніна жывога, бо ведалі, што ў той дзень яго заб'юць.



Мал. В. Тарасава.

Караўул паднялі па трывозе, каб узмацніць варту вакол Смольнага і ў самім будынку, бо невядома было, што яшчэ рыхтуюць змоўшчыкі.

Бывае ж шчасце, калі яго зусім не чакаеш. На маю долю выпала самае ганаровае ў тую ноч—тое, пра што я доўга марыў. Мне і майму сябру Амяльяну Гайлаенку камандзір загадаў патруліраваць у калідоры таго крыла, дзе размяшчаўся 81 пакой—кабінет Старшыні Саўнаркома. Каб у выпадку чаго тут жа, у міг, памагчы вартавым, якія стаялі каля кабінета. Больш таго — загадаў: калі Ленін пойдзе да сябе, на кватэру, спусціцца следам за ім і гэтак жа патруліраваць на другім паверсе, правяраць ва ўсіх пропускі.

Як на крыллях, узляцелі мы з сябрам на трэці паверх. І там... разгубіліся. У калідоры, перад пакоямі Саўнаркома, таўпіліся людзі. Многа людзей. Праўда, некаторых з іх мы ведалі ў твар—работнікі наркаматаў. Але ў такім натоўпе і вораг можа схавацца. Як жа нам паводзіць сябе? У каго правяраць пропускі? Нам уяўлялася, што тут пуста, а хто з'явіцца—з таго мы не спусцім вока. Ажно каля кабінета Леніна трохі што не мітынг.

Мы з Амяльянам уціснуліся ў гэты натоўп і тут даведаліся падрабязнасці: у машыну стралялі на мосце цераз Фантанку. Побач з Леніным сядзеў швейцарскі камуніст, пасля першага стрэлу ён нахіліў галаву Уладзіміра Ільіча і куля прабіла Платэну палец рукі. На паўвяршка ніжэй... Нехта сказаў пра гэта — і ўсе прыціхлі. А ў мяне халодны пот выступіў. З галавы ўсё яшчэ не выходзілі паслы. Хацеў сказаць пра іх гэтым людзям — не адважыўся: побач стаялі вядомыя бальшавікі, якіх я слухаў на мітынгах.

Падышоў задыханы стары, відаць, бягом узбіраўся па лесвіцы. Спытаў з ходу:

— Дзе Ільіч?

— Вядзе Саўнарком, — адказала жанчына.

— Вядзе Саўнарком? — здзівіўся і ўзрадаваўся, уздыхнуў лёгка, выхапіў з кішэні хустачку, прылажыў да вачэй, пасля ўсміхнуўся ўсім: — Пазнаю, пазнаю. Нішто яго не можа выбіць з каляі. Нішто! Такі Ленін!

Тады і да мяне дайшоў сэнс радасці і гонару старога бальшавіка. Але, такі ён, наш Ленін! Толькі што ў яго стралялі, а ён спакойна кіруе пасяджэннем урада, першага ў свеце ўрада рабочых і сялян.

Падумаў я пра гэта і адразу адчуў упэўненасць, быццам пасля марской качкі ступіў на цвёрдую зямлю. Праўда, трывога, павышаная пільнасць засталіся. Але ворага сярод людзей, што сабраліся перад кабінетам Леніна, я больш не шукаў. Паверыў: не можа яго быць тут. Не адважыцца такі падлюга падняцца ў баявую рубку. Такія страляюць з-за вугла.

Патроху людзі пачалі разыходзіцца, і наш каравульны абавязак стаў больш пэўны — такі, як мелі яго на ўвазе людзі, што на ўсялякі выпадак ўзмацнілі ў тую ноч варту.

Саўнаркам засядаў позна, гадзін да адзінаццаці. Але і пасля таго, як наркомы разышліся, Ленін доўга яшчэ не выходзіў. Я нават спалохаўся, што прапусціў, як ён выйшаў. Але чырвонагвардзеец, які стаяў каля дзвярэй, на маё запытанне позіркам: «Там?» — гэтак жа без слоў адказаў: «Там».

Не ведаю, чаму, але мне так хацелася ў той вечар сустрэцца з Ільічом, нібы ад сустрэчы той залежала маё жыццё, мой лёс. Я хваляваўся, як дзяўчына: хадзіў па калідоры і не крокі свае чуў, а грукат сэрца.

Ленін выйшаў з кабінета апоўначы з дзвюма жанчынамі. (Пасля я даведаўся: з сястрой Марыяй Ільінічнай і сакратаром, якая вяла пратакол).

Мы чакалі яго, аднак усё адно былі захоплены знянацку.

Ленін ішоў да нас, і мы з Гайдаенкам прыціснуліся да сцен калідора, адзін насупраць аднаго, сталі як на фронт, хоць адчувалі недарэчнасць такога пастрахення. Мелі ж загад патруліраваць непрыкметна. І вось на табе!

Уладзімір Ільіч прывітаўся:

— Добры вечар, таварышы, — і раптам спыніўся, агледзеў нас, напэўна, зразумеўшы, з якой прычыны мы стаім, нахмурыўся, спытаў: — Вас, таварышы, паставілі тут?

Я разгубіўся. Што адказаць? Ніякіх інструкцый на гэты конт нам не далі.

Сябра мой Гайдаенка выявіў большы спрыт і знаходлівасць:

— Не, таварыш Ленін. Правяраем каравулы.

— Каравулы на месцы?

— Так точна!

— Можна спакойна спаць? — вочы ў Леніна весела бліснулі: усё разумеючы, ён жартаваў.

— Так точна. Можна.

— Ідзіце спаць, таварышы. Позна ўжо. Добрай ночы, — і працягнуў руку Гайдаенку, пасля — мне.

Тады я падумаў, што Ленін не ваенны чалавек і не ведае, што зняць вартавых мае права толькі начальнік каравула.

Ашаломленыя, мы доўга стаялі моўчкі, і сябра мой гэтак жа, як і я, прыціскаў правую руку да грудзей, пэўна жадаючы зберагчы назаўсёды поціск ленінскай далоні.

Усё гэта я ўспомніў, пакуль гаварыў камісар крэйсера. У вачах маіх стаяў жывы Ленін, усміхаўся, ціснуў руку.

Можа праз тое, што я сустракаўся з правадыром і ў сэрцы жыла цеплыня яго рукі, мне, магчыма, цяжэй, чым іншым матросам было пагадзіцца з думкай, што Ленін паранены, што жыццё яго пад пагрозай.

Ускалыхнулі камісаравы словы аб тым, што на тэрор белых мы адкажам нашым чырвоным тэрорам супраць контррэвалюцыі.

Калі спыталі, хто хоча сказаць, я першы выйшаў са строю. І сказаў вельмі коратка:

— Таварышы матросы! Прапаную паслаць ад нашага крэйсера каманду для аховы правадыра сусветнай рэвалюцыі таварыша Леніна — Ульянава Уладзіміра Ільіча!

Чатырыста чалавек грымнулі ў адзін голас:

— Правільна! Паслаць!

Трохі разгублены ад такой прапановы, камісар паспрабаваў тлумачыць, што ў Леніна ёсць надзейная ахова, што пасылку каманды з баявога карабля, калі ніхто яе не просіць і не чакае, у Маскве не зразумеюць. Але камісару не давалі гаварыць.

— Якая там надзейная!

— Пяхтура сонная.

— Наш брат, матрос, грудзьмі загарадзіў бы таварыша Леніна.

— Галасуй, камісар!

— Без галасавання ясна!

— Начальнікам каманды назначыць Данілу Сураўца.

Мяне, значыцца.

Супраць мяне ніхто не запярэчыў. А ўсю каманду доўга падбіралі. Каб паехала дванаццаць самых лепшых, самых адданых рэвалюцыі матросаў, перабралі, можа, сотню прозвішчаў.

Выехаць не проста было. Спрабаваў затрымаць рэўком флоту, нават камісар іх прыехаў на крэйсер, але адступіў перад воляй народа — аднадушнасцю каманды. Ніякія тлумачэнні яго не памаглі. Спрабаваў прычапіцца да нас камендант Мікалаеўскага вакзала, калі мы садзіліся ў цягнік. Але быў ён з матросаў, і мы пагутарылі з ім па-флоцку. Зразумеў. У дарозе ўсе праверальшчыкі пачціва змаўкалі, калі даведваліся, куды і з якой задачай едуць матросы.

Да Крамлёўскіх варот мы падышлі ў страі, ажно брук гудзеў пад ударамі падкаваных матроскіх ботаў.

Хваляваўся я — на мне ж уся адказнасць. Нават баяўся трохі. Але па наіўнасці сваёй думаў, што без затрымкі парадным крокам уступім мы ў Крэмль і адразу ж станем там галоўнай аховай. Ва ўсялякім разе, сустрэнуць нас з радасцю і ўдзячнасцю.

Праўда, перад веліччу Крамля (упершыню ўбачыў яго), перад вышынёй сцяны чырвонай баявы настрой мой упаў. Адчуў я, што не ўсё так проста. Не адны мы, матросы, робім рэвалюцыю, і гатовыя грудзьмі сваімі засланіць правадыра ад варожых куль.

Каманда мая «рассыпала гарох» і збілася ў чараду, калі ў праёме варот з'явілася постаць чырвонагвардзейца. Ён рашуча загароджваў нам дарогу. Я загадаў сваім спыніцца і, усё яшчэ адчуваючы знявагу да пяхоты, якая не здолела ўберагчы Ільіча, рашуча папрабаваў:

— Мядуза, выклікай начальніка каравула.

Мабыць, вартавы здалёк убачыў нас і загадзя паклікаў, каго трэба. Не прайшло і дзвюх мінут, як з'явіўся цывільны, у скураным, з маўзерам пры баку, а з ім — два чырвонаармейцы.

Я адразу сцяміў, што з гэтым чалавекам трэба гаварыць інакш, чым з вартавым, і адрапартаваў па форме:

— Каманда з крэйсера «Алег» прыбыла для аховы Старшыні Савета Народных Камісараў таварыша Леніна. Камандзір атрада матрос Суравец.

Чалавек ледзь прыкметна ўсміхнуўся і заклапочана пашкроб патыліцу, ссунуўшы скураную фуражку на лоб.

— Давай, таварыш Суравец, сваім арлам «вольна», хай адпачнуць на мурагу ў садзе, а сам хадзем са мной.

Камендант Крамля сустрэў не вельмі прыветліва. Не даслухаўшы рапарту, спытаў хмура:

— Хто паслаў?

— Каманда крэйсера паслала. Як адзін, прагаласавалі.

— А камандзіры што думалі?

— Камандзіры выканалі волю народа.

— Анархісты.

Быццам ударыў ён мяне гэтым словам. Абразіў. Каб якая-небудзь несвядомая сухапутная халява кінула такое слова — чорт з ім, можна было б прайсці міма, а гэта ж — адказны таварыш. Такому нельга змаўчаць! Не мог я змаўчаць, не меў права, бо не за сябе абразіўся — за ўвесь рэвалюцыйны флот.

Патрабаваў:

— Вазьмі свае слова назад! І запомні: каманда «Алега» не анархісты. Не ведаю, дзе ты быў, а мы дваццаць пятага стаялі побач з «Аўрорай» і штурмавалі Зімні. І цяпер не за тоўстымі сценамі сядзім.

Не пакрыўдзіўся камендант. Палагоднеў. Усміхнуўся:

— Добра, бяру свае слова назад, — і тут жа пачаў званіць па тэлефоне. — Уладзімір Дзмітравіч. Атрад матросаў для аховы Ільіча. Але, яшчэ адзін. Трэці.

Пачуў я гэта—і ажно горача мне зрабілася! Крыўдна было, што не адны мы прыехалі, што не мы першыя, і сорамна, што паводзіў сябе так, быццам узнагароды патрабаваў за прыезд. А тут, выходзіць, людзі ўсё ўжо бачылі, для іх гэта звычайная справа.

Сапраўды, не адны мы робім рэвалюцыю — правільна я падумаў перад Крамлёўскай сцяной. Адразу стаў я цішэй вады. Нават камендант убачыў перамену ў маім настроі і суцешыў:

— Нічога, таварыш, не перажывай. Усё прывядзем да ладу.

Трое нас, матроскіх камандзіраў, прыняў кіраўнік справамі Саўнаркома Бонч-Бруевіч. Добра запомніўся мне гэты барадаты мужчына са стомленымі вачамі, інтэлігентны, але просты, з такімі людзьмі прыемна гутарыць.

Ён падзякаваў камандам нашых караблёў за ініцыятыву, у якой так глыбока, так яскрава праявілася любоў матросаў да таварыша Леніна. Ад імя Савецкага ўрада падзякаваў. Але растлумачыў, што цяпер няма патрэбы ва ўмацаванні аховы Крамля. Ахова надзейная. Расказаў, дзе і як быў ранены Уладзімір Ільіч. Падвёў размову да баёў на Волзе, дзе чырвоныя войскі ў адказ на раны правадыра з патроенай сілай б'юць контррэвалюцыю. Ідуць баі за родны горад Леніна — Сімбірск. Вось там трэба падмацаванне — вопытныя байцы і камандзіры, асабліва на караблях волжскай флатыліі.

Я адразу сцяміў, што мае на ўвазе Бонч-Бруевіч і, падняўшыся з крэсла, першы па-вайсковаму абвясціў:

— Каманда з «Алега» гатова сёння ж адбыць на Волгу!

Следам за мной гэта заявілі іншыя камандзіры.

— Дзякую, таварышы. Я раскажу пра вас Уладзіміру Ільічу, як толькі ўрачы дазволяць. Гэта будзе самае гаючае лякарства на яго раны. У Наркомваенморы атрымаеце мандаты і прадукты на дарогу. Я пазваню туды.

Нашу размову часта перапынялі тэлефонныя званкі. Я здзівіўся: на якія толькі пытанні не адказваў кіраўнік справамі! Пра баі на Волзе і пад Архангельскам, пра хлеб і пра нейкія карціны... Але нехта спытаў пра Леніна, і Бонч-Бруевіч ціха пачаў расказваць пра яго стан — якая тэмпература, дыханне, што сказалі дактары.



Калі ён скончыў гэтую размову, я спытаў:

— А дзе ляжыць таварыш Ленін? У бальніцы?

— Не, тут, у сваёй кватэры.

Праводзячы нас, Бонч-Бруевіч прайшоў з намі па вузкім калідоры і спыніўся каля вартавога.

— Вось тут, за гэтымі дзвярыма, дактары змагаюцца за жыццё Уладзіміра Ільіча. Перадайце таварышам на фронце, што Ленін будзе жыць! Яму ўжо лепш.

Стаіўшы дыханне, стаялі мы перад запаветнымі дзвярыма. Доўга стаялі, пакуль дзверы не адчыніліся; выйшла жанчына, прывіталася з Бонч-Бруевічам, а мы зазірнулі туды, унутр ленінскай кватэры, нічога не ўбачылі, але як бы ўдыхнулі тое паветра, якім дыхаў правадыр, якое давала яму жыццё, сілы. Яно і нам дало сілу. На развітанне я сказаў вартавому:

— Глядзі, браток, тут пільна. Памні, каго захоўваеш.

Праз тры дні каманды нашы былі ўжо ў Казані.

Мы сядзелі ў кабінеце старшыні калгаса. Занатоўваў я нямногае з таго, што расказваў Даніла Іванавіч. Больш глядзеў на яго, вывучаў твар, запамінаў жэсты, міміку. Самае дзіўнае, што мне ніяк не ўдавалася, як не напружваў я фантазію, уявіць таго маладога, рашучага бравага матроса, які камандаваў атрадам. Той уяўляўся высокім, шыракаплечым — асілкам! А сядзеў перада мной, цераз стол, нізенькі, хударлявы стары з пракуранымі і абкусанымі рудаватымі вусікамі, з беленькім пухам на галаве, як у малога, якога ні разу яшчэ не стрыглі. Праўда, па руках, па вачах і па тым, як ён расказваў — паслядоўна, звязна і коратка, без старэчай мнагаслоўнасці, — адчувалася, што дзядуля гэты даволі дзябёлы яшчэ і энергічны. Ды пра гэта мне сказалі раней. Яшчэ ў пісьме паведамляў мой пляменнік-аграном, ён прыехаў сюды на працу і «адкрыў» чалавека, які, на яго думку, павінен быў абавязкова зацікавіць дзядзьку-пісьменніка. Магчыма, што ўявіць Сураўца баявым матросам перашкаджала яшчэ адна акалічнасць — яго трохі не паўстагадовая вельмі ж мірная прафесія: фельчар!

Глядзеў я на яго і думаў: чаму пасля такой бурнай і багатай маладосці чалавек абраў такую ціхую прафесію?

Даніла Іванавіч як бы прачытаў мае думкі. Усміхнуўся.

— Пра ўсе мае паходы расказваць—доўгая песня. А ў мяне яшчэ два візіты — у Селішча і ў Дунайку. А Кузьміч чалавек скупы, транспарт медыкам шкадуе.

Старшыня адчуваў сябе ад такой крытыкі няёмка. Пачырванеў, пачаў абараняцца:

— Даніла Іванавіч. Каго, каго, а вас...

— Маўчу, маўчу. Не крыўдзілі, не крыўдзілі... Гэта я так...

Ён хуценька падхапіўся, узяў пад сталом свой старамодны пацёрты чамаданчык.

— Калі яшчэ што цікавіць — прашу ўвечары да мяне.

Старшыня паказаў сваю шчодрасць:

— Даніла Іванавіч, бярыце мой газік. Скажыце Васю, што ён паступае ў ваша распараджэнне.

У старога твар зрабіўся хітрэнны і такі гарэзлівы, што я трохі не зарагатаў. Але ён і гэта зразумеў: чмыхнуўшы ў вусы, з вельмі сур'ёзным выглядам запрасіў мяне:

— Часцей прыязджайце да нас, таварыш пісьменнік. А то я колькі пражыў на белым свеце, а жывога пісьменніка бачу першы раз.

Пляснуў матрос і па нашым браце.

— Чорт, а не дзед, — пакруціў галавой старшыня, калі Даніла Іванавіч борздзенька шмыгнуў за дзверы, як бы спалохаўшыся, што «газік» уцячэ без яго.

Пляменнік мой, аграном, задаволена засмяяўся.

— Хіба няпраўду я пісаў, што дзед-знаходка?

— Чаму ён выбраў такую прафесію?

— Кажа, у дзевятнаццатым яго моцна параніла, і ён доўга ляжаў у шпіталі, цэлы год. Там, кажа, і вырашыў прысвяціць жыццё сваё лячэнню людзей. Такая метамарфоза адбылася з чалавекам! Вярнуўся дадому, кончыў у Магілёве курсы — і вось ужо гадоў сорак шэсць — так? — лечыць землякоў. На восем вёсак адзін лекар быў. Усё ўмеў: роды прыняць, зуб вырваць. Гэта яму зімой цяжкавата дабірацца ў Дунайку ці ў Закінь. А ўлетку садзіцца на мотапед і — толькі пыл трубой. Калі ў нас урачэбны пункт зрабілі, маладая доктарка хацела Данілу на пенсію паслаць, дык бабы цэлы бунт паднялі, да райкома дайшлі. Пасля таго паспрабуй сказаць яму пра пенсію. Ідзіце, кажа, з народам гаварыце. Як народ пажадае. Дзівачыцца дзед. Нялёгка бывае з ім. Кожны тыдзень падкідае нам санітарныя праекты, — старшыня калгаса выказваў і захапленне старым і адначасова скардзіўся на яго дзівацтвы.

Малады аграном ад задавальнення ажно тупаў нагамі, добра, што абуты быў у валёнкі і не грукаў, патрабаваў ад мяне прызнання яго заслугі:

— А вы, дзядзька, не хацелі ехаць. Я вам залатую жылу адкрыў. Раман можна напісаць.

Я таксама думаў пра гэта: «Колькі цікавых людзей на нашай зямлі! Увечары распытаю ў Данілы Іванавіча пра ўсе яго паходы і пра ўсё жыццё».

# КАЛІ РОЛЯ—ПОДЗВІГ

## СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАЙ ТЭАТРАЛЬНАЙ ЛЕНІНІЯНЫ

Час бязлітасна выцручвае з памяці многае. Але ўдзел у спектаклі з вобразам Леніна назаўсёды запамінаецца артысту. І помніцца таварыш, які выконваў ролю правадыра. Асабліва, калі работа яго была па-сапраўднаму творчая, таленавітая, усхваляваная...

У фотаальбомах чатырох беларускіх артыстаў мы знайшлі здымкі, якія нагадваюць ім пра ўдзел у такіх вось ленінскіх спектаклях. І папрасілі дапоўніць гэтыя здымкі словам успамінаў...

### ТАКОЕ НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА



Д. Арлоў — Ленін у спектаклі «Крамлёўскія куранты».

*Калі мяне папрасілі сказаць некалькі слоў аб рабоце Дзмітрыя Аляксеевіча Арлова над вобразам Леніна ў спектаклі «Крамлёўскія куранты», я крыху разгубіўся. Проста не магу адразу знайсці самыя правільныя словы, якія перадалі б мае пачуцці, думкі, маё захапленне яго ігрой. Удзячнасць не шматслоўная...*

*Майстэрства Дзмітрыя Аляксеевіча Арлова не мае патрэбы ў каментарыях. Я шчаслівы, што быў яго партнёрам у многіх спектаклях. Асабліва запомніліся «Крамлёўскія куранты», дзе Дзмітрый Аляксеевіч іграў У. І. Леніна.*

*З першых жа рэпетыцый Арлоў стаў душой спектакля. Выходзячы на сцэну, мы звяралі па ім генеральны напрамак спектакля, з трапяткім захапленнем услухоўваліся ў яго ўсхваляваны голас. Ніхто з нас не мог нават падумаць, што Ільіч гаварыў інакш.*

*Ігра нашага старэйшага таварыша была бездакорна чоткая, у ёй адчувалася праўда, шчырасць. І хоць мы ведалі, што перад намі Ленін—Арлоў, бывалі хвіліны, калі мы на сцэне хваляваліся, як школьнікі на экзамене. Ды і як было не хвалявацца, калі ў двух кроках ад нас быў жывы Ільіч.*

*Такое не забываецца...*

І. РАЖБА,
заслужаны артыст БССР.

### ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ



Ф. Шмакаў — Ленін і Г. Маркіна — Спірыдонава ў спектаклі «Шостае ліпеня».

*Двойчы давялося мне быць партнёркай Фёдара Шмакава па сцэне, калі ён выконваў ролю У. І. Леніна. У «Шостым ліпеня» я іграю Спірыдонаву. Я там выступаю супраць Леніна. Па-чалавечы гэта вельмі цяжка, але гісторыя—гэта гісторыя. Так было. Мне ўспамінаюцца вочы Шмакава ў ролі Леніна, калі ён слухае маю прамову. Не, не варожыя. Ён імкнецца ўнікнуць у кожнае маё слова, у кожны сказ... Мы ведаем, як Ленін ставіўся да палітычных праціўнікаў, ён умеў паважаць іншыя перакананні, умеў разумець тых, хто памыляецца.*

*Але вось ён на трыбуне. Яго словы магутныя, шчырыя, пераканаўчыя, захапляюць усіх. Здаецца, гэта сцэна самая лепшая ў Фёдара Іванавіча.*

*А зусім нядаўна наш тэатр выпусціў прэм'еру па п'есе Пагодзіна «Трэцяя патэтычная»—у ёй я іграю Марыю Ільінічну. Мне прыемна, што тут я ўжо сябра Уладзіміра Ільіча. Я гэта адчуваю ў кожным руху акцёра, які выконвае ролю правадыра, у кожным позірку.*

Г. МАРКІНА,
заслужаная артыстка БССР.

### ЁН БЫЎ—ЧАЛАВЕК



Б. Платонаў — Ленін і З. Браварская — Ірына ў спектаклі «Трэцяя патэтычная».

*...Я прыйшла прасіць за брата. Ён несумленны чалавек, але ён мой брат, і я прыйшла прасіць...*

*Уладзімір Ільіч слухае мяне ўважліва, задае пытанні. Думае.*

*Потым пачынае гаварыць.*

*Цяпер слухаю я. Слухаю і пранікаю ў галоўнае. Я разумею, што яму шкада брата, і мяне яму шкада, але ёсць вышэйшыя прынцыпы. І прыходзяць на памяць словы Гётэ: «Я ніколі не быў высокай думкі аб сентыментальных людзях, у выпадку якіх-небудзь здарэнняў яны заўсёды аказваюцца дрэннымі таварышамі».*

*Уладзімір Ільіч глядзіць—ці зразумела я яго думку. Так, я яго зразумела. І хачу яму гэта сказаць, а не магу. Нешта перашкаджае гаварыць, а слёзы, якія я намагаюся стрымаць, цякуць па шчоках...*

*Вось такое адчуванне радасці і ўсхваляванасці было ў мяне на кожным спектаклі «Трэцяя патэтычная» ў нашым купалаўскім тэатры.*

*Барыс Віктаравіч Платонаў, выканаўца ролі Леніна, здолеў заразіць нас, сваіх партнёраў, адчуваннем рэальнасці падзей. Ён іграў чалавека. Не правадыра, не генія—чалавека, і пераконваў сілай сваёй яснай думкі, няўмольнай логікай аргументацыі.*

*Усяго Леніна сыграць, відаць, немагчыма, але ў нашым спектаклі быў разумны, уважлівы, непрымірымы Ільіч, добры і светлы, строгі і цёплы, азораны верай у Чалавека і ў яго лепшыя пачуцці.*

З. БРАВАРСКАЯ,
народная артыстка БССР.

### САМЫ ДАРАГІ ВОБРАЗ

*У п'есе А. Каплера «Навальнічны год», якую ставіў наш тэатр імя Янкі Купалы, мне давялося іграць ролю Аляксея Максімавіча Горкага.*

*У адным з эпізодаў Горкі спрачаецца з Ільічом аб прыродзе пралетарскага гуманізму. Пісьменнік у тую пару яшчэ не да канца зразумеў розніцу паміж ваяўнічым пралетарскім гуманізмам і беспрынцыпным буржуазным. Далейшыя падзеі пацвердзілі слушнасць ленінскай пазіцыі.*

*Ролю Леніна ў спектаклі выконваў Павел Сцяпанавіч Малчанаў. Гэта быў сапраўдны жывы Ільіч. Вобраз, на мой погляд, атрымаўся таму, што артыст ішоў ад унутранага да знешняга. Ленін у выкананні Малчанава—просты і шчыры, прынцыповы і рашучы.*

Ул. ДЗЯДЗЮШКА,
народны артыст БССР.



П. Малчанаў — Ленін і У. Дзядзюшка — Горкі ў спектаклі «Навальнічны год».

---

**СЯРОД КНІГ**

## ЗАЎСЁДЫ ГАТОВЫ!

Гэты зборнік вершаў і апавяданняў выдадзены нядаўна выдавецтвам «Беларусь» для самых маленькіх школьнікаў. У яго ўключаны творы пра Уладзіміра Ільіча Леніна больш трыццаці беларускіх пісьменнікаў. Найбольш багаты раздзел зборніка—паэзія.

Большасць вершаў зборніка прасякнуты грамадзянскім пафасам, у іх шчырая споведзь паэтаў пра любоў да правадыра, партыі і сацыялістычнай Радзімы. Ленін увайшоў у сэрцы паэтаў старэйшага пакалення разам з першымі словамі, якія яны прачыталі самастойна ў буквары, і дзе ўпершыню ўбачылі партрэт правадыра.

> Першы раз убачыў на партрэце
> Я яго ў далёкія гады.
> Мы вясковыя малыя дзеці
> Яшчэ ў школу бегалі тады, —

успамінае В. Вітка сваё маленства.

Не пакіне абыякавым малога і дарослага цудоўны верш П. Панчанкі «Заўсёды гатовы!» Узнёсла, з глыбокай шчырасцю і хваляваннем расказвае паэт пра суровы лёс свайго пакалення, якому ў неймаверна цяжкіх бітвах давялося здзяйсняць і абараняць ленінскія ідэі:

> Родны Ленін! Як дораг мне
> воблік яго,
> За ўсіх ён бліжэй...
> Я з таго пакалення,
> Над калыскай чыёй з першых
> дзён, з першых год
> Клапатліва схіляўся з усмешкаю
> Ленін.
> . . . . . . . . . . . . . . . .
> Мы са шляху твайго не сышлі
> ні на крок,
> Нас на подзвіг працоўны вяло
> твае слова.
> І не страшна, што недзе
> згушчаецца змрок,
> Наш дэвіз і сягоння:
> — Заўсёды гатовы!

З гэтымі палымянымі радкамі пераклікаецца верш Н. Гілевіча «Песня пра Леніна», дзе паэт ад імя свайго пакалення дае Ільічу клятву:

> Надзейнаю зменай мы станем
> у строй
> Пад ленінскі сцяг наш барвовы.
> Да працы, да бітвы любою
> парой
>
> Гатовы,
> Гатовы,
> Гатовы!

Хочацца спыніцца на вершы Р. Барадуліна «Суровая вымова». Цёпла, з іскрынкамі гумару, тактоўна паэт апісвае сустрэчу маленькай Надзеі з Леніным. Надзейка даведваецца, што Леніну дактары загадалі гуляць на свежым паветры гадзіну, а ён бывае на прагулцы толькі хвілін трыццаць. Пры сустрэчы з Уладзімірам Ільічом Надзейка дакарае яго за парушэнне рэжыму. А Ленін:

> Прыйшоў дадому,
> Нахмурыў бровы:
> — Сёння я вінават.
> Суровую атрымаў вымову
> І ўзят
> Пад штодзённы нагляд.

З празаічных твораў лепшы—апавяданне В. Хомчанкі «Дарагі падарунак». Гэта добра вядомае апавяданне, якое вось ужо некалькі год уключаецца не толькі ў беларускія хрэстаматыі, але і ў школьныя падручнікі іншых рэспублік.

Запамінаецца і лірычнае апавяданне П. Ткачова «Вішнёвая квецень».

Асобна хочацца сказаць добрае слова пра афармленне кнігі. Выдадзена яна проста цудоўна. Мастакі Ю. Зайцаў і П. Аўсянікаў і паліграфісты пастараліся. Так бы выдаваць усе дзіцячыя кнігі.

Е. ПЯРШАЙ,
студэнтка V курса БДУ.

---

«У нашых сэрцах Ільіч». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969.

Анатоль БЕЛАШЭЕЎ

# 1401-ы дзень вайны

*З БЛАКНОТА ВАЕННАГА КАРЭСПАНДЭНТА*



Мой расказ — пра той красавіцкі дзень, калі савецкія войскі авалодалі толькі першымі кварталамі фашысцкай сталіцы. Калі наперадзе яшчэ былі дзесяць сутак жорсткіх баёў за Берлін і да нашай рэгуліроўшчыцы каля Брандэнбургскіх варот, да першых мірных вестачак з фронту яшчэ ляжала паўтара дзесятка кіламетраў бясконца доўгага і цяжкага шляху.

Мой расказ — пра 22 красавіка 1945 года.

□

Нашы ў Берліне!..

Гэта вестка ў рэдакцыю прыйшла позняй ноччу і разам узняла на ногі ўсіх. На што ўжо флегматычны быў мастак Аляксандр Уладзіміравіч Бажэнаў, чалавек паважны, грузны, а і ён не ўседзеў, адразу ж прыйшоў у сакратарыят. Мы шумна віталі адзін аднаго, страчылі дамоў тэлеграмы, гарталі блакноты, падбіраючы для чарговага нумару самае цікавае. І, канечне, успаміналі. Горкія снягі Падмаскоўя, Вогненную дугу пад Курскам. Балоты беларускага Палесся, Сустрэчы з вызваленымі з няволі французамі, чэхамі, бельгійцамі ўжо на нямецкай зямлі...

Мне ў гэтыя хвіліны чамусьці прыйшла на памяць жартоўная анкета, якую мы прыдумалі тыдні два назад. Два пытанні: калі кончыцца вайна, і як будзе названы перадавы «Праўды» ў Дзень перамогі. Загалоўкаў, помніцца, прыдумалі вельмі многа. А вось што датычыць даты заканчэння вайны, дык Ваня Уханаў і я з асцярожным адказам — да 30 мая — яўна пралічыліся.

Здараецца, просты загад «Дзейнічайце!» успрымаецца, як узнагарода. Так было і гэтым разам. Рашэння рэдактара ўсе чакалі з нецярпеннем — каму пашчасціць? «Едзьце вы», — сказаў ён мне.

Зборы не занялі і пяці мінут. Блакнот у кішэні, шафёр у машыне. Развітваюся з сябрамі і ўсё яшчэ не веру, што камандзіроўка — у Берлін!

Прарэзаўшы цемру святлом фараў, «мерседэс» рвануў з месца. Праўда, на аўтастрадзе, каб не дэмаскіраваць войскі, якія бясконцым патокам ішлі ў бок Берліна, фары давялося выключыць. Але і ў поцемках, дарога была відаць. Вось міцулі нейкую развілку з рэгуліроўшчыцай пасярэдзіне —яна адпраўляла танкі направа. Чорным акведукам мільганула і засталося ззаду кальцо берлінскай акружной аўтастрады...

Аб чым я думаў тады? Слова гонару, не памятаю. Памятаю толькі, што вельмі хацелася прывезці з камандзіроўкі нешта такое, чаго яшчэ ў газеце не было.

□

Да Мальхова, дачнага прыгарада на паўночна-ўсходняй ускраіне Берліна, пад'ехалі яшчэ поначы. Далей дарогі не было — там ішоў бой. Справа і злева ад шашы занялі пазіцыі артылерысты і прамой наводкай білі па праціўніку, які хаваўся недзе наперадзе. Той агрызаўся. Усплёскі стрэлаў і выбухаў увесь час выхоплівалі з цемры чорныя сцены дамоў, голыя галінкі дрэў, сілуэты салдат, якія перабягалі. Кулі, пасвістваючы, цокалі аб цэглу, аб ствалы векавых вязаў, пад якімі мы спыніліся.

Каб не рызыкаваць машынай, загналі яе за напаўразбураную каменную агароджу. Выйшлі агледзецца, сарыентавацца.

Бралася на золак. Прыпаўшы да зямлі, ужо можна было заўважыць небакрай. Чорнае, як туш, неба цяпер вырысоўвалася шэрай цяжкой коўдрай, ахутвала востраверхія дахі дамоў, разгалістыя кроны дрэў, машыны на шашы. Недзе ў Маскве, Мінску, Брэсце займаўся новы дзень — даўно без стральбы, атак і смерцяў. А тут ішоў бой. За Берлін.

— Чакай мяне тут, — сказаў я шафёру і рушыў да бліжэйшай гарматы. Раптам бачу — ад агнявых пазіцый рынулася постаць салдата. У шынялі, з аўтаматам на грудзях, з катушкай тэлефоннага кабеля за плячыма. Прыгнуўшыся, сувязіст бег на мяне, спрытна разматваючы нябачны провад.

— Чыя батарэя? — аклікнуў я яго.

— Старшага лейтэнанта Співака!

Твар салдата добра разгледзець не магу, а голас, чую, звонкі, малады.

— Дзе камбат?

Заняты сваёй справай, хлапец паказаў у бок доміка метраў за дзвесце ад аўтастрады.

«Співак», — паўтарыў я сам сабе. Прозвішча здалося знаёмым, але колькі іх перабывала за вайну ў маіх карэспандэнцкіх блакнотах! Хіба ўсе запомніш?..

Каля доміка, да даху абвітага леташнім плюшчом ці хмелем, стаялі аўтамашыны са снараднымі скрынкамі, няспешна пахаджваў вартавы. НП і тылы батарэі па суседстве — такое можна было ўбачыць толькі ў канцы вайны.

— Камбат тут?

Салдат падышоў, напэўна, для таго, каб лепш разгледзець мяне, адказаў бадзёра, як мне здалося, нават крыху гарэзліва:

— Так точна, тут, таварыш капітан! Заходжу ў дом.

Як ні хутка абжывалі байцы ў вайну любы куток, адразу заўважаю — у гэтым катэджы на ўскраіне Берліна яны не намераны заседжвацца. Палявыя тэлефоны проста на падлозе. Каля іх, хто як здолеў, уладкаваліся сувязісты. Убаку, з рэчавымі мяшкамі за спіной і аўтаматамі на грудзях, тупаюць і кураць, заціснуўшы самакруткі ў кулак, разведчыкі. Ніякіх слядоў позняй вячэры або ранняга снедання. Нават выбітыя вокны і дзверы не занавешаны плашчпалаткамі.

Камандзір батарэі ў шынялі, накінутым на плечы, з біноклем у руках стаяў ля акна і строгім баском дыктаваў тэлефаністу: «Арыенцір два, лявей нуль дваццаць — кулямёт!.. Па кулямёце!..» Ён быў малады, русявы і...

Сустрэчы на дарогах вайны з земляком, сябрам, проста саслужыўцам заўсёды прыемныя. Але каб такая сустрэча, ды яшчэ дзе — лічы, у Берліне!..

Аднаго позірку было дастаткова, каб я ўспомніў і гэты хлапчуковы няўстойлівы басок, і светлы чуб, які прэ з-пад фуражкі, і манеру вось так нядбайна і разам з тым крыху фарсіста насіць шынель наапашкі... Дык вось чаму прозвішча Співак здалося знаёмым!..

— Ну, здароў, камбат! Пазнаеш?

Відаць, не менш за мяне ашаломлены нечаканай сустрэчай, Співак здзіўлена ўскінуў сінія вочы. Пазнаў. Заўсміхаўся.

— Таварыш камісар?!

Абняліся.

— Даўно не камісар, — удакладніў я. — Карэспандэнт... Вось не думаў, што тут цябе сустрэну.

□

Вайна звяла нас у Архангельску, у запасной часці. Я атрымаў прызначэнне на пасаду камісара ў процітанкавую батарэю, дзе Співак камандаваў узводам. Вось так і пазнаёміліся, а потым і падружыліся, абодва ледзь не равеснікі, абодва —«малодшыя»— палітрук і лейтэнант.

Служба ў запасной часці вядомая — толькі паспявай паварочвацца, прымаць, вучыць ды адпраўляць папаўненні. Але не гэта прыгнятала. Нас непакоіла іншае. Сорак першы год. Вайна. Немец да Масквы падступае. А мы, маладыя, здаровыя, у глыбокім тыле. Ідзеш па горадзе, сорамна людзям у вочы глядзець.

Чаго мы толькі ні рабілі, каб уцячы на фронт. І рапарты страчылі. І ў маршавыя роты напрошваліся. І свае яршыстыя характары начальству паказвалі. Бадай, самым няўрымслівым і вынаходлівым у гэтым быў ён — малодшы лейтэнант Іосіф Співак, невысокі, стройны кіяўлянін.

□

Для непаспешлівай размовы бой — час не самы добры. Я разумеў, што Співаку няма калі. Ды і сам не мог далей заставацца на батарэі — газета чакае карэспандэнцыі з Берліна. Таму рашыў распытаць сябра толькі пра самае галоўнае.

Мы выйшлі, прыселі на прыступку аўтамашыны са снараднымі скрынкамі. Развіднела. Цяпер ужо можна было разгледзець шчарбатую чарапіцу дахаў Мальхова, востраверхую кірху над ледзь прыкметнай зелянінай садоў, варонкі на алеях і вулачках, паваленыя дрэвы, агароджы. Бой працягваўся. Але стрэлы нашых гармат цяпер грукаталі куды часцей, чым выбухі нямецкіх снарадаў.

— Што чуваць з Кіева? —перш за ўсё пацікавіўся я, ведаючы, як Іосіф заўсёды трывожыўся за маці і сясцёр.

Ён дастаў з кішэні гімнасцёркі разам з партбілетам пісьмо.

— Усё нармальна. Толькі ўчора атрымаў. Чытай...

— Ого, ты — камуніст? Віншую!

— Яшчэ пад Віцебскам прынялі. Там і камбатам стаў, — сказаў Співак.

Я запісаў некалькі прозвішчаў падначаленых Співака, што ў гэтыя хвіліны вялі агонь па Берліне, і падняўся — трэба было пабываць яшчэ ў мотастралкоў, танкістаў.

— Нядобра атрымалася. І сустрэць цябе, як след не змог. Сам бачыш.

— Ды што ты! Лепшай сустрэчы і не можа быць!..

Я ад'язджаў, спадзеючыся яшчэ ўбачыцца з сябрам. І што вы думаеце, каля палудня зноў наткнуўся на яго батарэю. Яна стаяла на кароткім адпачынку на беразе возера Вайсензее, за якіх-небудзь шэсць—восем кіламетраў ад цэнтра Берліна.

— Чуеш, камісар! — Співак па старой прывычцы так і называў мяне камісарам. — А гэта ж табе можа спатрэбіцца. Для газеты... У нас тут яшчэ адна сустрэча адбылася. Бачыш, на лавачцы сядзяць, нагаварыцца не могуць...

К гэтаму часу мой блакнот быў ужо поўны. Я паспеў пабываць у танкістаў, сапёраў, мотастралкоў, пагаварыць з першым цывільным берлінцам Рудольфам Копвіцам, гаспадаром невялікай кілбаснай фабрыкі ў Вайсензее, спісаць з вулічнай афішнай тумбы цікавы загад каменданта Берліна аб тым, што «ўсе ваеннаслужачыя-адпускнікі абавязаны сёння ж (!) са зброяй, боепрыпасамі, рэчамі і харчаваннем на адны суткі з'явіцца ў Шпандаў, казармы імя Секта. У выпадку перабояў у рабоце транспарту (?), прыбыць ва ўказанае месца пешкі».

У кішэні ў мяне ляжалі дзве цікавыя «ахоўныя граматы», зусім не падобныя адна на адну. Адну з іх — «Гэта кватэра швейцарскага грамадзяніна Еганеса Альберта Колера, нараджэння 6.VII. 1901, знаходзіцца пад аховай прадстаўніцтва Швейцарскай Канфедэрацыі. Берлін. 13.IX.1944» — я зняў з чыгуннай агароджы нейкага асабняка, разбітага прамым пападаннем фугаскі. Другую, разгаварыўшыся, перадала мне для апублікавання ў друку дзяўчына з Растова-на-Доне Люда Каралёва, якую я сустрэў на Данцыгерштрасэ. Вось што пісала яна пра немку-гаспадыню, у якой жыла і працавала ў служанках з лютага сорак чацвёртага года: «Валі Ляйман — вельмі добрая жанчына. Працуючы з дзвюма іншымі рускімі дзяўчатамі ў яе доме, я мела магчымасць пераканацца, што яна ўсімі сіламі душы ненавідзіць Гітлера, фашызм і стараецца дапамагчы нявольнікам — рускім, палякам, французам, перадаючы ім адзенне і прадукты. Веру, што Валі Ляйман, як і ўсе мы, жадае хутчэйшага вызвалення ад ненавісных гітлераўцаў. Яна заўсёды з глыбокай павагай гаворыць пра Леніна, Маскву і нашу Радзіму...»

Паўтараю, матэрыялаў, уражанняў для першай берлінскай карэспандэнцыі ў мяне было больш, чым дастаткова. І тым не менш я затрымаўся ў Співака, каб запісаць падрабязнасці яшчэ адной сустрэчы гэтага дня. Бо шчаслiўчыкам, героем яе, як высветлілася, аказаўся той самы сувязіст, што раніцай паказваў мне дарогу на НП батарэі.

Не, не было ў іх жыцці вясны больш светлай і горшай за тую, што так моцна звяла іх і нечакана разлучыла.

Ленінградцы—токар Паўка Сырцоў і студэнтка Люба Каровіна жылі па суседстве, на Другой Бярозавай алеі. Кожны вечар бачыліся, гадзінамі гулялі на набярэжнай Нявы, праводзячы адзін досвітак і сустракаючы другі. Аб чым толькі не гаварылі, і, бадай, больш за ўсё баяліся сказаць адзін аднаму: «Позна ўжо, трэба дамоў».

У суботу, яшчэ нічога не ведаючы, Паўка праводзіў Любу на практыку ў Порхаўскі раён, — гэта зусім недалёка ад Ленінграда. Абяцаў пісаць. Можа, нават як-небудзь прыехаць на выхадны... А ў нядзелю воінскі эшалон вёз яго бог ведае куды з Ленінграда, ад дома, ад Любы.

З дарогі Паўка напісаў ёй на Порхаўскую вопытную селекцыйную станцыю. Яна гэта пісьмо атрымала. А куды адказваць, калі на канверце няма нумару Паўкінай воінскай часці?..

Потым паміж Любай і Паўлам прalegла лінія фронту. Павел ужо ваяваў недзе пад Рослаўлем, калі ў нявольніцкім вагоне немцы вывезлі дзяўчыну ў далёкую, чужую Германію. Вось так яны і згубілі адзін аднаго амаль на чатыры гады.

— Ведаеце, — паспешліва расказваў цяпер Павел, увесь час паглядаючы на сваю худзенькую, коратка пастрыжаную суседку, — толькі па вачах яе і пазнаў, раней у яе косы былі. Праўда, Люба?.. Перабягаю, значыць, вуліцу, каб пад кулю не трапіць, раптам чую, быццам мяне хто кліча: «Паўка! Паўлуша!» Гляджу, у пад'ездзе дома дзяўчынка стаіць і рукой махае. Я да яе, бачу — Люба! Аж вачам не паверыў...

Слухаючы Паўку, Люба толькі шчасліва і сумна ўсміхалася, ды час ад часу згодна ківала галавой. Усе гэтыя гады яна жыла ў служанках у капрызнай гаспадыні на Густаў-Адольфштрасэ, 34, і, здаецца, да гэтага часу не верыла ў сваё выратаванне.

— Учора гаспадыня з дзецьмі выбралася некуды, — грудным ціхім голасам расказвала дзяўчына. — «Ты таксама паедзеш», — загадала мне. А я думаю, навошта ехаць, калі нашы побач, ужо гарматы чуваць. Схавалася на гарышчы, а сёння раніцай выйшла на вуліцу, чакаю, калі хто з байцоў пакажацца. Многія тут прабягалі, ды не да мяне ім было! Потым ледзь прыціхла, бачу — вуліцу перабягае ну, як дзве кроплі вады Паўлік. І постаць яго, і хада знаёмая. Аклікнула на ўсякі выпадак, вось так і стрэліся. Зноў вясной, толькі на чатыры гады пазней, — зусім ціха дадала Люба.

— А цяпер што?

— Гэта справа ўжо вырашаная, — за абоіх адказаў Павел. — Я — канчаць вайну, а яна — дамоў, у Ленінград. Правільна, Люба?.. Аграномы цяпер краіне во як патрэбны...

□

Вярнуўшыся ў рэдакцыю, я зараз жа сеў пісаць. І толькі разгарнуўшы блакнот з паметкай «22 красавіка», успомніў, што сёння тысяча чатырыста першы дзень вайны, і роўна семдзесят пяць гадоў назад, вось у такі ж вясновы дзень, у Сімбірску, на Волзе, нарадзіўся Уладзімір Ільіч Ленін!

С. Р. ДАБРАВОЛЬСКІ

## УСПАМІНЫ САЛДАТА РЭВАЛЮЦЫІ

У армію я прызываўся на Бузэ
І трапіў адразу ў стралковую
роту.
А ўвосень семнаццатага
ў Пецярбурзэ
Ляжаў у шпіталі, дастаўлены
з фронту.

Вы там не былі?
Ну, вядома, не кожны
Меў шчасце там быць. Ого-го,
пане-браце,
Калі пракаціўся той залп
пераможны,
То водгулле грымнула аж
у Кранштаце!

І ўсе мы адчулі: настала
расплата
За ўсё наша гора. Паўстань,
паднявольны!
І — дзе хто ў чым быў, павалілі
з палатаў
Да цэнтра, на плошчы,
ў напрамку на Смольны.

Я клыпаў на мыліцах. Нылі
калені.
Людскія натоўпы плылі,
віравалі,
Як рэкі ў паводку, і толькі ўсё
«Ленін!»
Раз-пораз на ўсе галасы
скандавалі.

Ішлі і з заводаў, і з дымных
слабодак
Старыя і малыя. Хто ж на свята
не прыйдзе?
І словам свяшчэнным —
«Свабода! Свабода!» —
Віталіся радасна, як на
вялікдзень.

Салдаты крычалі: —
Не вернемся болей
Гнісці па акопах! — І праўда,
скажу я,
Хапіла з нас вошай, калецтва
і болю.
За што ваяваць? Хай ваююць
буржуі!

Эх, браце! Пакуль наша шэрая
маса
Адчула, што значыць
братэрства, свабода,
То колькі ж чыталі і мы
Карла Маркса.
Яшчэ да вайны на маёўках
і сходах!

Не выветрыў з памяці час той
шчаслівы.
Ракеты трывожна над Піцерам
віслі,
І ветрыкам зябкім цягнула
з заліва,
Як часта і ў нас на Прыбужжы
ці Віслe.

І з там-той начы, калі залпамі
веку
Кастрычнік усё на зямлі
перайначыў,
Кульгавы калека, я стаў
чалавекам,
І я падужэў, бо я Леніна бачыў.

З польскай пераклаў Язэп Семяжон.


К. КАСМАЧОЎ. Напярэдадні.

# «ШЛЁМ ГАРАЧАЕ ПРЫВІТАННЕ...»

Масква, Крэмль, Леніну... Па гэтым адрасе ішлі шматлікія пісьмы і тэлеграмы з усіх куткоў нашай краіны. Многа іх ішло і з Беларусі.

Тэлеграмы, якія мы прапануем увазе чытачоў, выяўлены супрацоўнікамі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР у архівах Масквы.

### АД КАМУНІСТАЎ БЕШАНКОВІЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РКП(б).

1 верасня 1918 г.

*Даведаўшыся аб зладзейскім замаху на Ваша жыццё, мы, камуністы Бешанковіцкай арганізацыі, выказваем Вам, правадыр і таварыш, сваё душэўнае спачуванне і шлём пажаданні хутчэй паправіцца. Клянёмся, што мы, камуністы, не пацерпім гэтага агіднага злачынства нашых ворагаў і за кроў правадыра адкажам самым бязлітасным чынам.*

Камуністы.

### АД ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ 2 ВІЦЕБСКАГА САВЕЦКАГА ПЯХОТНАГА ПАЛКА.

4 верасня 1918 г.

*Мы, абаронцы рэвалюцыйнай Расіі, не здадзім сваіх пастоў, не выпусцім з рук вінтовак, пакуль ні аднаго здрадніцкага паўголасу не застанецца ў нашай свабоднай сацыялістычнай Расіі, хоць здраднікі ўсімі сіламі стараюцца загубіць нас і нават забіваюць нашых перадавікоў, іх жа здрадніцкая рука была накіравана на тав. Валадарскага, цяпер гэта крывавая агідная рука нацэлілася на бацьку рэвалюцыі ўсяго свету, дарагога нашага правадыра тав. Леніна. Мы спадзяёмся, што тав. Ленін застанецца па-ранейшаму нашым кіраўніком, мы, уся рэвалюцыйная Расія, разам з ім цвёрда, стойка будзем працягваць пачатую вялікую справу. Гэтым здрадніцкім замахам яны не загубяць нашу цвёрдасць і стойкасць у сіле рэвалюцыі, наадварот, кожны новы замах яшчэ больш згуртоўвае нас у адзінае непарыўнае цэлае, каб як мага хутчэй і мацней перамагчы ўсіх без выключэння ворагаў рэвалюцыі ўсяго зямнога шара.*

*Няхай жыве таварыш Ленін!*

*Няхай жыве сацыялізм усяго свету!*

2-гі пяхотны Віцебскі Савецкі полк.

### АД КАНФЕРЭНЦЫІ СЛУЖАЧЫХ САВЕЦКІХ УСТАНОЎ ГОР. ВІЦЕБСКА.

5 верасня 1918 г.

*Канферэнцыя служачых савецкіх устаноў гор. Віцебска шле сваё гарачае прывітанне правадыру расійскай рэвалюцыі таварышу Леніну і заяўляе, што буржуазіі, пераможанай у адкрытым баі рабочым класам, не ўдасца шляхам белагвардзейскага тэрору вырваць з рук рабочых і бяднейшага сялянства іх правадыроў і самой рэвалюцыі. Пралетарыят здолее ўтрымаць уладу ў сваіх руках і даць належны адпор нізкаму, подламу выкліку буржуазіі.*

*Няхай жыве правадыр сусветнай рэвалюцыі таварыш Ленін!*

*Няхай жывуць правадыры пралетарыяту!*

*Няхай жыве пралетарская дыктатура!*

Старшыня Кабаніх,
Сакратар Ашмарын.

### АД ЧЭРЫКАЎСКАГА ПАВЯТОВАГА З'ЕЗДА КАМІТЭТАЎ БЕДНАТЫ.

16 верасня 1918 г.

*І Чэрыкаўскі павятовы з'езд камітэтаў беднаты горача вітае ваша выздараўленне і абяшчае бязлітасную барацьбу наймітам буржуазіі.*

### АД ДЭЛЕГАТАЎ СТАНІСЛАВАЎСКАГА ВАЛАСНОГА З'ЕЗДА ЛЕПЕЛЬСКАГА ПАВЕТА.

18 верасня 1918 г.

*Станіславаўскі валасны з'езд Віцебскай губерні вітае правадыра рэвалюцыі з выздараўленнем і з нецярпеннем чакае, калі ён возьме ў свае рукі авангарды сусветнай рэвалюцыі.*

Старшыня Кузьмін,
Сакратар Пеперт.

### АД КЛІМАВІЦКАГА ПАВЯТОВАГА З'ЕЗДА НАСТАЎНІКАЎ

2 кастрычніка 1918 г.

*Павятовы з'езд навучэнцаў, дзеячоў народнай адукацыі ў колькасці 500 чалавек, які адкрыўся ў Клімавічах, горача вітае правадыра будучай сусветнай рэвалюцыі таварыша Леніна, правадыроў настаўніцтва, творцаў адзінай працоўнай школы-камуны — Луначарскага, Ульянаву.*

Старшыня з'езда.

### АД І КАНФЕРЭНЦЫІ КАМУНІСТАЎ АРШАНСКАГА РАЁНА

23 кастрычніка 1918 г.

*Першая канферэнцыя камуністаў Аршанскага раёна вітае Вас, як правадыра сусветнай рэвалюцыі і нашай партыі і выбірае ганаровым старшынёй.*

### АД ШЧУЧЫНСКАГА ДОМА БЕДНАТЫ ВЕРХАЎСКАЙ ВОЛАСЦІ ВІЦЕБСКАГА ПАВЕТА

3 лістапада 1918 г.

*У гадавіну Вялікай рэвалюцыі шлём нашым слаўным правадырам братняе прывітанне, пажаданні працягваць вялікую работу па шляху да славы, святла, міру. Няхай жыве Савецкая ўлада! Няхай жыве сусветная рэвалюцыя! Няхай жыве таварыш Ленін на многія гады! Ура!*

Шчучынскі дом беднаты
Верхаўскай воласці
Віцебскага павета.
Старшыня Крумінг,
Член Рукаў,
Сакратар Міхайлаў.

### АД ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ АРШАНСКАГА ГАРНІЗОНА

10 лістапада 1918 г.

*Мы, чырвонаармейцы ўсіх часцей Аршанскага гарнізона, вітаем нашага правадыра таварыша Леніна ў дзень вялікага святкавання Кастрычніцкай рэвалюцыі. Клянемся, што толькі пераступіўшы праз нашы трупы, ворагі адбяруць у нас уладу рабочых і сялянскіх (дэпутатаў).*

Старшыня агульнага
сходу чырвонаармейцаў
Анісімаў,
Сакратар А. Страшных.

### АД ГРАМАДЗЯН ГОРАДА ІГУМЕНА

18 снежня 1918 г.

*З прыходам Савецкай улады, якая вызваліла з-пад ярма шэйдэманаўцаў, вітаем дарагога Ільіча, правадыра сусветнай рэвалюцыі і ўвесь Савет Народных Камісараў.*

Старшыня сходу Яршоў.

### АД УДЗЕЛЬНІКАЎ МІТЫНГА, СКЛІКАНАГА БАБРУЙСКІМ КАМІТЭТАМ РКП(б).

19 снежня 1918 г.

*Мітынг, скліканы Бабруйскім камітэтам партыі камуністаў бальшавікоў, лічыць зараз у самы грозны і самы адказны момант, што абарона Рэспублікі гэта абарона сусветнай рэвалюцыі, адзіны шлях вызвалення рабочых і сялян усіх краін. Мы клянёмся крывёю замучаных гайдамацкімі нагайкамі, клянёмся мукамі нашых братоў, якія пакутуюць яшчэ ў турмах, што напружым усе сілы і здольнасці для таго, каб раз назаўсёды або перамагчы або памерці. Сабраўшыся цеснай камуністычнай сям'ёй у толькі што вызваленым ад гнёту капіталістаў горадзе Бабруйску, мы вітаем Вас, наш дарагі, паважаны правадыр і клянёмся ўсімі сродкамі і сіламі падтрымліваць справу далейшай барацьбы.*

*Няхай жыве сусветная сацыяльная рэвалюцыя!*

*Няхай жыве гераічная барацьба сусветнага пралетарыяту!*

*Няхай жыве правадыр сусветнага класа працоўных— Ленін!*

Старшыня рэўкома Равінскі,
Упаўнаважаны
Рэўваенсавзаха Азараў.

### АД СЯЛЯН СЕННЕНСКАГА ПАВЕТА

20 снежня 1918 г.

*Мітынг сялян Сенненскага павета, якія прыехалі на кірмаш, шле братняе прывітанне правадыру нашаму, які праліў кроў за справу вызвалення ўсіх эксплуатуемых, Уладзіміру Ільічу Леніну, шчыра жадае падтрымаць рэвалюцыю і ўладу рабочых і сялян.*

Інструктар-агіт. Смялоў,
Старшыня выканкома
Прышэнаў,
Ваенны камісар Шыпіла.

### АД СЛУЖАЧЫХ ДЗІСНЕНСКАЙ ПАШТОВАЙ КАНТОРЫ

24 снежня 1918 г.

*Агульны сход паштработнікаў Дзісненскай канторы, вызваліўшыся ад нямецкага і панскага белагвардзейскага ярма, вітаючы ў вашай асобе Савецкую ўладу, клянецца аддаць усе свае сілы і, калі спатрэбіцца, жыццё на барацьбу за Савецкую рэспубліку.*

*Няхай жыве Сацыялістычная Федэратыўная Савецкая Рэспубліка!*

*Няхай жывуць яе вялікія светлыя правадыры!*

Старшыня Пугачоўскі,
Сакратар Накоўнік.

### АД СЯЛЯН ВЁСКІ ХАТЛЯН ШАЦКАЙ ВОЛАСЦІ ІГУМЕНСКАГА ПАВЕТА

25 снежня 1918 г.

*Мы, сяляне вёскі Хатляны, Мінскай губерні вітаем таварыша Леніна ў асобе Саўнаркома за цвёрдую палітыку дыктатуры пралетарыяту.*

*Няхай жывуць сяляне і рабочыя!*

Старшыня Саладуха.

### АД СХОДУ СЛУЖАЧЫХ, МАЙСТРОЎ І РАБОЧЫХ МІНСКАГА РАЁНА ЛІБАВА-РАМЕНСКАЙ ЧЫГУНКІ

26 снежня 1918 г.

*Агульны сход служачых, майстроў і рабочых Мінскага раёна Лібава-Раменскай чыгункі шле Вам гарачае прывітанне і сардэчную ўдзячнасць, як вялікаму і дарагому правадыру сусветнай пралетарскай рэвалюцыі, правадыру партыі камуністаў, абаронцы рабочага класа і ў асобе вашай дзякуе Чырвонай Арміі, Саўнаркому, якія вызвалілі акупіраваныя чыгункі ад ярма германскага імперыялізму.*

Макавееў.

у музей Марцьянава хадзілі. Ой, які багаты музей, такога і ў Краснаярску няма, і ў Новасібірску не ўбачыш.

**3.**

Музей імя Марцьянава ў Мінусінску пакідае незабыўнае ўражанне. Тут дзесяткі тысяч экспанатаў пра быт і жыццё мясцовага насельніцтва, пра геалагічную будову, прыродныя ўмовы былой паўднёвай Енісейшчыны, пра цяперашняе жыццё Мінусінска і яго ваколіц. Гэты музей быў калісьці ўдзельнікам Усерасійскай і Сусветнай выставак у Ніжнім Ноўгарадзе, Парыжы, Чыкага, мае шмат дыпломаў і ўзнагарод.

Едзем стэпам. Справа вялізнае возера Татарскае. Вакол яго рассыпаліся па нізіне курортныя домікі.

Аўтобус шугнуў па гладкай асфальтоўцы ў рэдкі бор. Спускаемся ў вёску Знамянку, пасля ўзбіраемся на Думную гару. Зноў спуск, пераязджаем рэчку Ою. Вада ў рэчцы рэзка спала. Гэта ж зусім нядаўна летняя гарачыня даходзіла да пяцідзесяці градусаў. З днішча ракі вытыркаюцца спіны шэрых каменняў.

— А ведаеце, і ў Шушанскім каля доміка Пятровай, у якім жылі Ленін і Крупская, ёсць такія ж каменні. Мы іх называем нямымі, а калісьці, як расказвала мне бабуля, іх называлі шумлівымі,— кажа мне Аня, студэнтка-экскурсавод з аўтобуса.

— Чаму?

— На рэчку Шушу каля дома Пятровай прыходзілі мыць бялізну і біліць палатно сялянкі. Бялізна тады была кужэльная і зрэбная, дык білі яе пранікамі. Шумна было тут з ранку і да вечара. Спакою не было Уладзіміру Ільічу і Надзеждзе Канстанцінаўне. Гэта ж каля самага дома. Вось тады нехта і пасароміў жанчын, сказаў, што тут такія добрыя людзі жывуць, а вы ім спакою не даяце. Жанчыны і перасталі пранікамі біць бялізну ў гэтым месцы. Анямелі шумныя каменні.

Ля паварота дарогі аўтобус робіць прыпынак каля абеліска-ўказальніка. На ім — надпіс: «У с. Шушанскае, дзе з 1897 па 1900 г. жыў правадыр сусветнага пралетарыяту У. І. Ленін».

Да Шушанскага засталося ўсяго дванаццаць кіламетраў. Падымаемся на ўзвышша. Бачым зноў Енісей, а воддаль на небасхіле Саянскія горы.

Дарога прабягае месцамі праз зялёныя прысады. Спакойна стаяць бярозкі і таполі. А вось паказаўся з левага боку бор, а з правага — поле пшаніцы, месцамі яна ўжо зжата і абмалочана, узвышаюцца сціrты саломы.

На ўскраі бору новы гарадскі пасёлак Шушанскае.

Першымі мураванымі будынкамі сустрэлі птушкафабрыка, завод малочных кансерваў, шматпавярховыя дамы рабочага квартала. А вось і чатырохпавярховы корпус сельскагаспадарчага тэхнікума імя У. І. Леніна і Н. К. Крупскай, далей — бальніца, паліклініка, магазіны. Улева за імі паднялі крылы будаўнічыя краны, месцамі ўжо бялеюць пяціпавярховыя панельныя і мураваныя жылыя дамы.

А дзе ж тое старое сяло Шушанскае, якое цікавіць у гэтыя дні ўвесь свет, увесь Савецкі Саюз? Трыццаць шэсць старых драўляных дамоў уваходзяць у Шушанскі унікальны помнік.

**4.**

Сюды прыехаў Уладзімір Ільіч Ленін вясною. Май расквеціў лугі, палі, лясы. Над Шушаю гнуліся зялёныя вербы і вербалозы. Але сяло Шушанскае наводзіла смутак і журботу. Сялянскія дворы, закіданыя смеццем і гноем. Вакол — ні дрэўца, ні кусточка.

У даволі прасторным доме селяніна А. Зыранава кватараваў ссыльны У. І. Ленін. Гэты дом захаваўся да нашых дзён са сваёю вонкавай і ўнутранай абстаноўкай. На яго фасадзе мемарыяльная дошка:

«У гэтым доме жыў правадыр сусветнага пралетарыяту У. І. Ленін. 1897—1898 гг.»

У трох пакоях засталіся мэбля, пасуда, рэчы Зыранавых, а ў адным невялічкім пакойчыку — стол і чатыры крэслы, ложак, паліцы з кнігамі, часопісамі і газетамі, на сцяне старэнькі барометр. Ён паказвае — ясна.

У гэтым доміку мінусінскі спраўнік зрабіў Леніну першае «внушение» за самавольную адлучку, паездку да сваіх сяброў у Мінусінск.

Праз год, 7 мая 1898 г., прыехала сюды ссыльная Надзежда Крупская з маці Елізаветай Васільеўнай. Яны не засталі Уладзіміра Ільіча дома. Пэўна ён у гэты час адпачываў у будане каля возера Пяроўскае, у той мясціне, якую моцна палюбіў.

Ён зараз адноўлены, гэты будан.

Захаваўся ў сваім нязменным выглядзе вялізны дом удавы Пятровай, у якім Ленін кватараваў з Надзеждай Крупскай і яе маці.

У двары Пятровых і цяпер стаіць альтанка, вакол якой Ленін і Крупская пасадзілі хмель, даглядалі каля дома градкі з кветкамі і агароднічалі.

Мікалай Гарадзецкі, дырэктар мемарыяльнай Шушанскай зоны (дарэчы, наш зямляк, ён нарадзіўся ў вёсцы Восава Бабруйскага раёна) пералічвае мне найбольш важныя з трыццаці напісаных Леніным у гэтых пакоях твораў — «Задачы рускіх сацыял-дэмакратаў», «Развіццё капіталізму ў Расіі», «Наша праграма», «Надзённае пытанне», «Пратэст расійскіх сацыял-дэмакратаў» — і кажа, што хто-небудзь іншы не паспеў бы нават начыста перапісаць гэтыя навуковыя работы за тры гады. Ленін жа знаходзіў час, каб паблукаць па ваколіцах Шушанскага, наведаць сваіх сяброў у бліжэйшых ваколіцах і апрача гэтага весці багатую патаемную перапіску з сябрамі па ссылцы і на волі.

З групай кемераўскіх камсамольцаў едзем у любімае ленінскае месца — на Жураўлiную горку. Ля падножжа яе экскурсавод гаворыць, што гэта горка была ў далёкія часы вышэйшай, а цяпер сюдою прыходзяць тысячы людзей і згортваюць нагамі з яе вяршыні пясок у нізіну.

Бачу, як два хлапчукі перад тым, як падняцца на Жураўліную горку, узялі па жменьцы пяску, а калі ўзышлі на вяршыню, высыпалі пясок сабе пад ногі. Пэўна гэты ўчынак увойдзе ў традыцыю і Жураўліная горка будзе расці.

Маторная лодка імчыць нас на будаўнічую пляцоўку Саяна-Шушанскай ГЭС — найвялікшай электрастанцыі ў свеце. Спыняемся ля пакатай гары, узбіраемся на скалісты абрыў. Адсюль, як на далоні, відаць будаўнічыя краны, рабочы пасёлак, мітусня лодак, баржаў, цеплаходаў.

Гэта гідраэлектрастанцыя таксама будзе велічным помнікам правадыру.

Стары барометр не падвёў. Усе дні майго прабывання ў Шушанскім выдаліся сонечныя, светлыя.

А цяпер мой шлях ляжыць на Ачынск. Туды калісьці ў лютыя халады Ленін і Крупская прабіраліся коньмі. Ад Абакана на Ачынск імчыць зараз цягнік. То стэп, то тайга, то тунелі, то крутыя завіткі паяска рэек вакол гор. Колькі спатрэбілася сіл і энергіі чалавеку, каб пралажыць сюды дарогу. Здзейсніліся і здзяйсняюцца ленінскія ідэі зрабіць жыццё чалавека радасным і шчаслівым.

*Жнівень — верасень 1969 г.*

М. МАНАСЗОН. Першы з'езд РСДРП.

# «НАЙЛЕПШ БЫЛО Б, КАБ ГЭТА БЫЎ РАБОЧЫ...»

## ПРА ПЕРШАГА ВЫКАНАЎЦУ РОЛІ ЛЕНІНА Ў КІНО

Набліжалася 10-годдзе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вырашана было адзначыць гэтую дату гістарычным мастацкім фільмам «Кастрычнік» і прапанаваць пастаноўку яго Сяргею Эйзенштэйну, Рыгору Аляксандраву і Эдуарду Цісэ. У аснову сцэнарыя былі пакладзены матэрыялы з кнігі Джона Рыда «10 дзён, якія ўзрушылі свет». Да юбілейнага свята заставалася ўсяго шэсць месяцаў... Здымачная група працавала ў дзве і тры змены. Да таго ж, пастаноўшчык мог паскорыць тэмп здымак дзякуючы асабістаму дасканаламу веданню матэрыялу. У дні Кастрычніцкай рэвалюцыі Сяргей Эйзенштэйн жыў у Петраградзе і як апалчэнец народнай міліцыі прымаў самы актыўны ўдзел у падзеях.

Кінематаграфісты спяшаліся...

Віктар Шклоўскі ў кнізе «Жылі-былі» расказаў пра такі эпізод са здымкаў у Зімнім палацы:

«Сяргей Міхайлавіч загадаў узарваць ракету ў адным з залаў палаца, каб убачыць эфект выбуху ад стрэлу з «Аўроры». Рамы вылецелі.

Эйзенштэйн расказваў: падышоў стары капельдынер, пачаў змятаць шкло з паркета, пасля выпрастаўся і сказаў Сяргею Міхайлавічу:

— Калі вашы ў першы раз бралі палац, яны яго больш берaглі».

Натуральна, што самым складаным было пытанне, як увасобіць вобраз У. І. Леніна на экране? Думалі выкарыстаць хроніку. Паглядзелі ўсе кіначасопісы, дзе быў зняты жывы Ільіч. І не знайшлі такіх кадраў, якія арганічна ўвайшлі б у фільм. Звярнулі ўвагу на кароткаметражны мастацкі фільм «Дзевяноста шэсць», які быў пастаўлены ў 1919 годзе. Зрабіў яго Ул. Гардзін — ветэран рускай кінематаграфіі, таленавіты рэжысёр і акцёр. Там быў эпізод, у якім малады чалавек, ролю якога выконваў артыст Марозаў, пад уплывам натхнёнай прамовы Леніна пайшоў на фронт абараняць Савецкую ўладу. Асабліва прывабілі кадры, у якіх Уладзімір Ільіч зняты разам з артыстам Марозавым. Вось гэтыя кадры і выкарыстаў С. Эйзенштэйн. Але праблема яшчэ не была вырашана. Тады прыйшло рашэнне зняць у ролі Леніна падобнага на яго чалавека. Эйзенштэйн раіўся з Надзеяй Канстанцінаўнай і Марыяй Ільінічнай Ульянавай. Яны таксама выказаліся супраць таго, каб ролю Леніна іграў прафесійны акцёр. «Найлепш было б, — гаварыла Надзежда Канстанцінаўна, — каб гэта быў рабочы».

Такога рабочага знайшлі. У «Кастрычніку» ролю У. І. Леніна сыграў жыхар Новарасійска Васіль Нікандраў, які працаваў механікам у порце гандлёвага параходства і адразу здзівіў кінематаграфістаў вонкавым падабенствам з Ільічом. Кінарэжысёр Міхаіл Ром у кнізе «Размова пра кіно» напісаў: «Яго сапраўды не трэба было грыміраваць, і калі ён у ленінскім касцюме, кепцы, чаравіках і гальштуку выходзіў на вуліцу, дык людзі, сутыкаючыся з ім, камянелі».

В. Нікандрава пазнаёмілі з Н. Крупскай і М. Ульянавай. Яны таксама былі незвычайна ўражаны рэдкім падабенствам, а калі фільм быў гатовы, выказалі задавальненне творчым вынікам усёй працы.

С. Эйзенштэйн быў вельмі ўдзячны кінарэжысёру Б. Чайкоўскаму. Гэта ён, здымаючы ў Новарасійску фільм «У тыле белых», заўважыў В. Нікандрава, пазнаёміўся з ім і расказаў аб ім Эйзенштэйну.

Па прыродзе сваёй В. Нікандраў быў натурай мастацкай. Ён захапляўся тэатрам. Увесь вольны час аддаваў мастацкай самадзейнасці. Быў здольны да малявання. Лічыўся неблагім майстрам гравёрнай справы. У час здымкаў ён разумеў з паўслова, чаго ад яго патрабавалі. Здзіўляла яго памяць на лічбы, твары, імёны, рэчы, мелодыі і г. д. Чалавек гэты быў заўсёды рухавы, энергічны і вясёлы.

На вялікі жаль, ён так і не стаў прафесіянальным артыстам, хоць меў для гэтага выдатныя здольнасці. Затое, па гэтым шляху пайшоў яго сын Павел Васільевіч Нікандраў, заслужаны артыст Беларускай ССР, які зараз жыве і працуе ў Маскве.

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА.**

шло ў галаву забараняць нам дзе б там ні было здымаць.

Пасля канца пасяджэння я і тав. Казлоўскі праводзілі Леніна да самай кватэры. Ленін увесь час гутарыў з намі, і я атрымаў дазвол зайсці як-небудзь на кватэру, каб зрабіць некалькі кадраў у хатняй абстаноўцы.

Ад просьб замежных дэлегатаў даць то тыя, то іншыя партрэты Ільіча — кожны дзень не было адбою.

На жаль, гэта быў апошні дзень удзелу Леніна ў рабоце кангрэсу. Здароўе Уладзіміра Ільіча пагоршылася. Заходзячы ледзь не кожны дзень на кватэру, я сустракаў вельмі занепакоеную, але заўсёды незвычайна ўважлівую Марыю Ільінічну, якая ўсё раіла пачакаць са здымкай да паляпшэння здароўя Уладзіміра Ільіча...»

Больш кінематаграфістам здымаць Леніна так і не давялося. У гісторыі кіно Казлоўскі застаўся адзіным аператарам, які рабіў апошнія прыжыццёвыя кадры правадыра...

Вернемся назад, у першую палову 1922 года. Вядома, што Уладзімір Ільіч кіраваў падрыхтоўкай, а пасля работай савецкай дэлегацыі на міжнароднай канферэнцыі ў Генуі. Для яго не было ніякіх «дробязей». Пытанне аб пасылцы кінаапаратара ў Італію таксама абмяркоўвалася са Старшынёй Савета Народных Камісараў. Аб гэтым мы даведваемся з ліста загадчыка Усерасійскім фотакінаадзелам Наркампроса П. І. Ваяводзіна ад 4 лютага 1922 года, які прасіў У. І. Леніна пасадзейнічаць перад Чычэрыным і Літвінавым аб камандзіроўцы на канферэнцыю ў Геную вопытнага кінааператара Цісэ.

Мы пакуль не ведаем, па якой прычыне вядомы аператар Э. Цісэ не паехаў у Італію. Але маем шэраг дакументаў, якія маюць адносіны да Мікалая Казлоўскага — кінааператара пры Расійскай дэлегацыі на Генуэзскай канферэнцыі. У адным з іх А. В. Луначарскі просіць Г. В. Чычэрына аказаць аператару Казлоўскаму «неабходную маральную і матэрыяльную падтрымку» пад час работы яго ў Генуі.

Нядаўна ў Мінск на прэм'еру фільма «Стары знаёмы» прыязджаў аператар і рэжысёр заслужаны артыст БССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР А. Кальцаты. З вялікай пашанай і любоўю расказваў ён на сустрэчах пра свайго першага настаўніка — М. Казлоўскага. Аркадзь Мікалаевіч прыгадаў, як у перапынках паміж здымкамі ў Бешанковічах першай беларускай кінакамедыі «Джэнтльмен і певень», настаўнік расказаў свайму асістэнту пра адзін эпізод з часоў сваёй работы ў Генуі.

Лойд-Джордж — англійскі прэм'ер-міністр, адзін з арганізатараў ваеннай інтэрвенцыі супраць Савецкай дзяржавы, катэгарычна забараніў сябе здымаць. Вядома, на афіцыйных пасяджэннях канферэнцыі ён нічога зрабіць не мог — тут здымаць дазвалялася. І ўсё ж Мікалай Феафанавіч зняў Лойд-Джорджа ў яго рэзідэнцыі. Ён прыладзіў апарат за дэкаратыўнымі кустамі каля дарожкі, якая вяла да вілы. Чакаць прыйшлося доўга. Нарэшце, ляпнулі дзверцы аўтамабіля і на дарожцы з'явіўся гаспадар. Казлоўскі пачаў круціць ручку апарата, якія тады пры здымцы моцна трашчалі. Прэм'ер-міністр пачаў неспакойна азірацца. Нарэшце заўважыў аператара і злосна пайшоў на яго. Мікалай Феафанавіч спакойна працягваў здымаць. Прэм'ер убачыў перад сабой чалавека сваіх гадоў, сівога, бародка кліночкам, элегантна апранутага, які не спяшаючыся зняў капялюш і з годнасцю пакланіўся. Лойд-Джордж стрымана запытаўся, якую краіну прадстаўляе нязваны госць. Казлоўскі адказаў. Былі яшчэ пытанні... Рассталіся англійскі прэм'ер і савецкі кінааператар міралюбна: раскланяліся, як на афіцыйным прыёме...

У 1937 годзе кінематаграфічная грамадскасць краіны шырока адзначыла 70-годдзе з дня нараджэння і 50-годдзе творчай дзейнасці Мікалая Феафанавіча, якое ён сустрэў вядучым рэжысёрам-аператарам студыі «Саюзтэхфільм».

Яго не стала на 73 годзе жыцця. Пахаваны ён у Ленінградзе.

**І. ІЛЬЮШЫН.**

# У ЛІТАРАТУРЫ СВЕТУ

**Л. МІРОНЕНКА,**
кандыдат філалагічных навук

«БЫЛО роўна 8 гадзін 40 мінут, калі грамавая хваля прывітальных воклічаў і воплескаў паведаміла аб з'яўленні членаў прэзідыума і Леніна—вялікага Леніна — сярод іх. Невысокая каржакаватая фігура з вялікай лысай і выпуклай, моцна пасаджанай галавой. Невялікія вочы, буйны нос, шырокі высакародны рот, масіўны падбародак, паголены, але з прыкметнай бародкай, такой вядомай у мінулым і будучым. Пацёрты касцюм, некалькі не па росту доўгія штаны. Нічога, што нагадвала б куміра натоўпу, просты, любімы і паважаны так, як, можа, любілі і паважалі толькі нямногіх правадыроў у гісторыі. Незвычайны народны правадыр, правадыр выключна дзякуючы свайму інтэлекту, чалавек, які не цярпеў позы, не паддаваўся настрою, цвёрды, непахісны...»

Так апісвае Джон Рыд сваё ўражанне аб сустрэчы з Уладзімірам Ільічом на пасяджэнні II Усерасійскага з'езда Саветаў 26 кастрычніка 1917 года.

Карэнны амерыканец, выхадзец з заможнай сям'і, выхаванец Гарвардскага універсітэта, Джон Рыд парваў са сваім класам, зблізіўся з рабочым рухам, у 1917 годзе паехаў у Расію, далучыўся да бальшавікоў і прыняў удзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі. І па гарачых слядах падзей стварыў кнігу «Дзесяць дзён, якія ўзрушылі свет»

У гэтай кнізе Джон Рыд упершыню ў зарубежнай літаратуры даў яркае і дынамічнае апісанне Леніна, з вялікай дакладнасцю і псіхалагічнай пераканаўчасцю раскрываючы перад чытачом вобраз вялікага чалавека і правадыра. «Дзесяць дзён, якія ўзрушылі свет» Д. Рыда паклалі пачатак зарубежнай Лeнініяне, якая адлюстравала — у люстэрку сусветнай грамадскай думкі — усеабдымную асобу пралетарскага правадыра.

Дзесяткі тысяч старонак налічвае сёння сусветная Ленініяна. Да асобы Леніна звярталіся паэты, празаікі, драматургі, жывапісцы, скульптары, музыканты, звярталіся ў розныя перыяды сваёй творчай біяграфіі, звярталіся зноў і зноў. Мастакоў прыцягвала незвычайная шматграннасць асобы Леніна, тая сусветна-гістарычная роля, якую ён адыграў у лёсах чалавецтва. Пісьменнікі розных краін, звяртаючыся да вобраза Ільіча, узбагачаюць нацыянальную літаратуру гераічным пачаткам, высокімі гуманістычнымі ідэаламі, пафасам рэвалюцыйнасці і стварэння, тым самым узнімаючы яе на больш высокі інтэлектуальны, філасофскі, эстэтычны ўзровень.

У першыя гады Савецкай улады, апрача Джона Рыда, пра Леніна пісаў англійскі фантаст Герберт Уэлс у кнізе «Расія ў імгле», створанай пад уражаннем паездкі ў 1920 годзе ў Савецкі Саюз.

«Я чакаў сустрэць марксісцкага начотчыка, з якім мне давядзецца ўступіць у бітву, але нічога падобнага не адбылося... Ленін гаварыў хутка, з захапленнем, зусім шчыра і прама, як гавораць сапраўдныя вучоныя...»,—піша аўтар.

Наведанне Савецкай краіны, сустрэчы з Ільічом зрабілі добры ўплыў на ідэйна-мастацкую эвалюцыю Уэлса, пісьменніка, якому добра былі знаёмы творчыя зрывы і ідэйныя хістанні. «Дзякуючы Леніну я зразумеў, што... камунізм можа быць творчай стваральнай сілай»,—пісаў ён.

Вялікага правадыра вітаў буйнейшы англійскі драматург Бернард Шоу. Ён пасылае ў Маскву сваю п'есу «Назад да Мафусаіла» з надпісам: «Мікалаю Леніну, які адзін сярод дзяржаўных дзеячоў Еўропы валодае дараваннем, характарам і ведамі, неабходнымі чалавеку на такой адказнай пасадзе. Ад Б. Шоу, 16 ліпеня 1921 г.»

У жалобныя дні 1924 года Шоу гаварыў аб сваім надпісе на кнізе: «Я шчаслівы, што вітаў тады Леніна, як найвялікшага дзяржаўнага дзеяча Еўропы»...

Да вобраза Леніна, да ўспамінаў аб асабістых сустрэчах з ім неаднаразова звяртаўся заснавальнік дацкай пралетарскай літаратуры Марцін Андэрсен-Нексе. Для Нексе Ленін— гэта геній, які «ўвасобіў у сабе ўсю духоўную сілу народа», у якім «так удала ўвасобіліся... найвялікшыя прагрэсіўныя ідэі чалавецтва». Ленін для Нексе — гэта «сімвал, сцяг і светач для ўсіх».

Уладзіміру Ільічу прысвечана некалькі нарысаў Нексе. У нарысе «На смерць Леніна» дацкі раманіст стварае вобраз правадыра, вылучаючы на першы план яго прастату, яго блізкасць да мас: «Усё ў ім — прастата паводзін, хітраватыя іскрынкі ў вачах, нават яго кепка — указвала на рысы новага пралетарыя, сапраўднага, простага і натуральнага. Яго думкі былі ясныя, зразумелыя, даходлівыя і блізкія простаму чалавеку. Яго сэрца білася ва ўнісон з вялікім пралетарскім сэрцам, з сэрцам усяго чалавецтва».

Пісьменнік верыць, што справа Леніна будзе жыць, але ўсё ж «смерць Леніна азначае для сусветнага пралетарыята беззваротную страту, ад якой цалкам не акрыяць», бо «святло, якое асвятляла нам шлях, патухла: на чале пралетарскага руху няма больш вялікага правадыра». Нексе разумее, што «тыя нямногія гады, у якія пралетарыі ішлі наперад пад братнім кіраўніцтвам Леніна, былі для іх шчаслівым часам».

У нарысе «Уплыў Леніна на творчыя сілы Захаду» Марцін Андэрсен-Нексе гаворыць аб значэнні асобы правадыра, яго вучэння для ўсіх працоўных, «няхай гэта будуць работнікі культуры або простыя рабочыя». Вялікая роля правадыра ў працэсе рэвалюцыянізавання творчага светапогляду дзеячоў мастацтва. «Геніяльны вобраз Леніна, які спалучыў у сабе тэарэтыка і практыка, указвае работнікам культуры новыя мэты— ён вядзе іх ад пасіўнага сузірання ў свет дзеяння і справы»,—пісаў Нексе.

Адным з першых вітаў Кастрычнік і яго правадыра французскі пісьменнік Рамэн Ралан, неаднаразова падкрэсліваючы велізарную ролю думак і здзяйсненняў Леніна ў сваёй ідэйна-творчай эвалюцыі.

У артыкуле «Ленін. Мастацтва і дзеянне» пісьменнік захапляецца цэласнасцю асобы пралетарскага правадыра, яго ўменнем сінтэзаваць думку і дзеянне, мары і справы. Ралан імкнецца не столькі да абмалёўкі знешняга партрэта Уладзіміра Ільіча, колькі да ўзнаўлення духоўнага аблічча правадыра, які «ўвесь арсенал розуму — мастацтва, навуку—мабілізуе для дзеяння». Прыцягвае французскага пісьменніка актыўнасць, мэтанакіраванасць правадыра. «Ленін увесь — ва ўсе імгненні свайго жыцця—у баі... Нішто не здольна адарваць яго ад рэвалюцыйнай дзейнасці... Яму невядомы ні хістанні, ні сумненні. У гэтым — крыніца яго сілы і перамога справы, якую ён увасабляў».

У 1927 годзе амерыканскі раманіст Тэадор Драйзер прыехаў у Расію, каб разам з савецкім народам адсвяткаваць 10-гадовы юбілей Кастрычніка. У выніку ўзнікла кніга «Драйзер глядзіць на Расію», дзе расказана аб тым, што аўтар «сам бачыў і адчуў».

«У Расіі я зразумеў тое, аб чым і падумаць не мог у Амерыцы: сапраўдная годнасць чалавека ляжыць у сферы духоўнай, а не матэрыяльнай. Гэта — яго думкі і іх значэнне для свету». Аўтар звяртаецца да Леніна: «Спі спакойна, Ільіч, бацька новай сацыяльнай сілы, якая,—хто ведае—можа быць, зменіць свет».

Уладзіміру Ільічу прысвячае Драйзер спецыяльны нарыс «Ленін». Самае галоўнае ў Леніне, на думку амерыканскага пісьменніка,—гэта «шырокае, усебаковае і яснае разуменне Леніным, што неабходна і што можна зрабіць з велізарнай краінай.., якая ў выніку царскай тыраніі адстала на сотні гадоў ад эканамічнага і сацыяльнага ўзроўню жыцця і навуковага прагрэсу Амерыкі і Еўропы». Усё сваё жыццё і ўсе думкі свае Ленін прысвяціў «навуковым пошукам у барацьбе за лепшы грамадскі лад».

Вывучэнне спадчыны Уладзіміра Ільіча, знаёмства з Расіяй і рускім народам дапамагло Драйзеру ўпэўнена ісці па рэвалюцыйным шляху і прывяло яго да ўступлення ў камуністычную партыю Амерыкі — лагічнаму завяршэнню ўсяго жыццёвага і творчага шляху вялікага і сумленнага пісьменніка.

Па-новаму, у арыгінальнай творчай форме стварыў вобраз Леніна чэшскі пісьменнік-камуніст Юліус Фучык у нарысе «Ленін». Славак-чабан, які жыў высока-высока ў гарах, добра ведае Леніна: «Так, Ленін быў, як Яношык. У багатых браў, а беднякам аддаваў». Падумаўшы, стары-чабан дадаў: «Так, ён быў яшчэ лепшы за Яношыка». У старога пастуха імя Леніна выклікае знаёмую, родную асацыяцыю. Яношык—народны славацкі герой, увасабленне справядлівасці і сумленнасці. І, параўнаўшы Леніна з народным героем, пастух з далёкіх Ліптаўскіх палёў «пакінуў яму самае высокае месца, якое толькі было ў яго ўяўленнях для справядлівых, мужных і мудрых», — піша Юліус Фучык.

Агульнанародная цікавасць да асобы Леніна і яго грандыёзных здзяйсненняў выклікала да жыцця біяграфічныя творы аб ім. Пісьменнікі вывучалі жыццё Уладзіміра Ільіча, бачачы ў ім прыклад бескарыслівага служэння ісціне і справядлівасці. З біяграфій Леніна, створаных за рубяжом, можна назваць шырокую прадмову да французскага выдання пісьмаў Уладзіміра Ільіча да родных, напісаную пісьменнікам-камуністам Анры Барбюсам з нямецкім літаратарам Альфрэдам Курэлай, а таксама біяграфічную кнігу англійскага пісьменніка Ральфа Фокса «Ленін».

Асобая старонка сусветнай Ленініяны — паэтычныя творы аб пралетарскім правадыры. Гэта, бадай, самая шматлікая і значная частка літаратуры пра Леніна. Э. Мюзам, І. Бехер, Б. Брэхт, Куба (Германія), Поль Вайян-Куцюр'е, Поль Элюар (Францыя), Джэк Ліндсей (Англія), Хрыста Радзеўскі, Элісавета Баграна (Балгарыя), Юліян Тувім, Уладзіслаў Бранеўскі (Польшча), Іосеф Гора, Віцезслаў Незвал (Чэхаславакія), Нікалас Гільен (Куба), Назым Хікмет (Турцыя), Пабла Неруда (Чылі), Лэнгстон Х'юз, Джо Уолес (ЗША) — пералік можна было б дапоўніць многімі і многімі імёнамі паэтаў, якія натхняліся ленінскай тэмай.

Паэтычнае слова пра Леніна шматжанравае і шматграннае. Вялікаму правадыру прысвячаліся вершы, песні, гімны, оды, паэмы. У іх — і задушэўная мяккасць, і лірычная усхваляванасць, патэтыка і гераіка, філасофскія роздумы і баявы заклік.

Сусветная Ленініяна атрымлівае ўсё новыя і новыя творчыя перамогі. Стварэнне вобраза Леніна для сур'ёзнага пісьменніка — заўсёды галоўная кніга, у якой ён падагульняе ўсё, што пражыў, аднак шматграннасць ленінскага характару такая вялікая, а дзейнасць яго такая маштабная, што ні адзін мастак не здольны цалкам вычарпаць ленінскую тэму. Апрача таго, у розныя перыяды нашага неўтаймоўнага часу, паводле слоў В. Берггольц, Ленін «уяўляецца душы па-рознаму: гэта таму, што ён ужо даўно стаў неад'емнай часткай свядомасці і ўваходзіць у яе няспынны рух».

І да таго часу, пакуль на нашай планеце будзе жыць вялікі цуд прыроды—чалавек, шматгранная і ўсеабдымная асоба Уладзіміра Ільіча будзе натхняць людзей на барацьбу за справядлівасць, а вялікія ленінскія думкі, як зоры ў ясную бязвоблачную ноч, будуць асвятляць чалавечы шлях да ісціны і прыгажосці. І паэты ўсяго свету будуць спяваць аб ім. І не высахне ніколі гэтая крыніца, якая жывіць сусветнае мастацтва.

# РЫГОР ЯКАЎЛЕВІЧ КІСЯЛЁЎ



Пасля аўтамабільнай аварыі і цяжкай хваробы ў сувязі з гэтым, 10 красавіка 1970 года памёр член ЦК КПБ, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Кісялёў Рыгор Якаўлевіч.

Р. Я. Кісялёў нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Нікалаеўка Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Сваю працоўную дзейнасць ён пачаў у 1932 годзе настаўнікам Броніцкай няпоўнай сярэдняй школы, затым працаваў дырэктарам Любовінскай НСШ Буда-Кашалёўскага раёна, дырэктарам Самацееўіцкай сярэдняй школы Касцюковіцкага раёна. З 1939 года знаходзіўся на палітычнай рабоце ў Савецкай Арміі, актыўна ўдзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, двойчы паранены.

Пасля вылячэння ў шпіталі Р. Я. Кісялёў з 1942 года працаваў загадчыкам партыйнага кабінета, загадчыкам аргінструктарскага аддзела, другім сакратаром Петухоўскага райкома партыі Курганскай вобласці. З 1945 года Рыгор Якаўлевіч Кісялёў знаходзіўся на кіруючых пасадах у партыйных і савецкіх органах нашай рэспублікі— другі сакратар Гомельскага райкома партыі, намеснік загадчыка аддзела кадраў Гомельскага абкома партыі, загадчык аддзела, намеснік начальніка ўпраўлення кадраў ЦК КП Беларусі.

У 1951 годзе Р. Я. Кісялёў паспяхова заканчвае Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС, абараняе кандыдацкую дысертацыю, а затым назначаецца загадчыкам аддзела навукі і вышэйшых навучальных устаноў ЦК КПБ, у 1953 годзе—міністрам культуры, у 1964 годзе — міністрам асветы БССР. З 1968 года Рыгор Якаўлевіч Кісялёў — намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР.

На ўсіх пасадах, якія даручала яму партыя, Р. Я. Кісялёў паказаў сябе рознабакова падрыхтаваным кіраўніком, здольным арганізатарам, чалавекам высокай партыйнай сталасці і вялікай культуры. Усе свае сілы, веды і набыты вопыт ён аддаваў справе Камуністычнай партыі і савецкага народа. Р. Я. Кісялёў неаднаразова выбіраўся ў састаў ЦК КП Беларусі, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Радзіма высока адзначыла шматгранную плённую дзейнасць Р. Я. Кісялёва, узнагародзіўшы яго ордэнамі Леніна, Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны», медалямі. Яму прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР.

Высокая прынцыповасць, патрабавальнасць да сябе, сціпласць, чуласць і ўвага да людзей здабылі яму павагу ўсіх, хто ведаў яго. Светлая памяць пра Рыгора Якаўлевіча Кісялёва назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**К. Т. Мазураў, П. М. Машэраў, С. О. Прытыцкі, Ц. Я. Кісялёў, Ф. А. Сурганаў, У. Е. Лабанок, С. А. Пілатовіч, В. Ф. Шаура, У. Ф. Міцкевіч, А. А. Смірноў, І. М. Макараў, І. Я. Палякоў, М. Н. Полазаў, Г. М. Жабіцкі, І. Ф. Клімаў, А. І. Золаў, У. Г. Каменскі, С. М. Кішкін, П. Л. Коханаў, М. І. Лагір, Б. І. Шаціла, А. В. Гарачкін, С. В. Марцэлеў, А. Т. Кузьмін, А. Ц. Караткевіч, В. Я. Крукаў, М. М. Мяшкоў, М. А. Мінковіч, М. Г. Мінкевіч, М. А. Барысевіч, П. У. Броўка, Я. І. Скурко (М. Танк), В. І. Шарапаў, Ф. І. Самбук, А. Н. Сеўчанка, П. І. Яшчарыцын, М. В. Кавалёў, Д. В. Цябут, У. А. Мікуліч, К. В. Мацюшэўскі, А. Н. Аксёнаў, П. Я. Рубіс, І. Ф. Мікуловіч, М. П. Малочка, В. А. Гваздзёў, М. А. Кліменка, Г. А. Крыулін, В. К. Луцкін, М. Ф. Капіч і інш.**

